НІ СЛАВЫ, НІ СКАРБАЎ Я НЕ ХАЧУ,
МНЕ Б ТОЛЬКІ ПРАЙСЦІ
НЕПРЫКМЕТНА,
ЗЯМЛЮ СВАЮ ПАД НАГАМІ
АДЧУЦЬ,
НАДЫХАЦЦА РОДНЫМ ПАВЕТРАМ.

Пімен Панчанка



Фота Я. Цялушэцкага.


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 3 (934) ГОД XIX БЕЛАСТОК 20 СТУДЗЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.


## ДОБРАЯ ПРАЦА ПЕРШ ЗА ЎСЁ!

Прадпрыемства сталярскіх паслуг у Гарадку Беластоцкага павету дзейнічае ад 1951 года. Выконвае яно сталярку: дзверы, вокны, пераапрацоўвае дрэва на розных памераў дошкі і г.д. На прадпрыемстве ёсць механічныя пілы і фрэзаркі. Працуе тут 18 асоб з Гарадка і навакольных вёсак Радуніна, Грыбаўцоў, Страшава, Меляшкоў і Падазеран. Прадпрыемства выконвае сталярку для жыхароў Гарадка і навакольных вёсак, а таксама для розных прадпрыемстваў і ўстаноў з іншых паветаў. Яно салідна выконвае вырабы.

Размах працы тармазіць аднак несвоечасовае забеспячэнне сыравінай (дрэвам) асабліва восенню, калі ўвесь чыгуначны транспарт заняты перавозам сельскагаспадарчых пладоў. Тады няраз прадпрыемству даводзіцца наймаць транспарт з сельгасгурткоў або МБМ-аў. Нельга ж бяздзейнічаць, склаўшы рукі. Дык ездзяць тады трактары па сыравіну ў Супрасль, Плацічна або ў Гайнаўскі павет. Інакш прадпрыемства не выканала б прадукцыйных планаў.

А планы ёсць планы. Каб іх паспяхова рэалізаваць, неабходна паспяхова супрацоўнічаць з тартакамі, а таксама з Ваяводскім прадпрыемствам паслуг ППТ у Беластоку, якое, між іншым, забяспечвае пільснёвымі плітамі і іншымі матэрыяламі. А ў практыцы аказваецца, што спамянутыя прадпрыемствы не зусім добра клапоцяцца пра прадпрыемствы сталярскіх паслуг.

Сталярня, як тут гавораць мясцовыя жыхары, чакае паспяховага вырашэння іншай важнай справы. Чакае заканчэння будовы новага корпуса прадпрыемства. Дагэтуль на яго будову спатрэбілася 640 тысяч злотых, ёсць яшчэ да выкарыстання 3 мільёны злотых, але няма выканаўцы. Дык стаіць на пляцы, за старой сталярняй, новы будынак, але служыць ён для іншых патрэб. Калі б будову новага корпуса давесці да канца, тады прадпрыемству спатрэбілася б у два разы больш рабочых і былі б яны забяспечаны сучасным сталярскім абсталяваннем і лепшымі сацыяльнымі ўмовамі: гардэробам, уборнай і сталовай. Таксама двойчы павялічылася б прадукцыя.

Нас цікавяць людзі. Віктар Кандрусік 17 гадоў звязаны з гарадоцкай сталяр-

(Працяг на стар. 4)

## ВОЛАТ ПРАЦЫ

Усё жыццё і настаўніцкая праца **Надзеі Адамюк** звязаны з з пушчанскімі мясцовасцямі. Муж Н. Адамюк — ляснік, і жывуць яны ў леснічоўцы што стаіць ускрай Лядскай пушчы. Зімой на панадворак забягаюць казулі ды зайцы, а летам не моўкне разнагалоссе птушыных спеваў і нястомны пошум кашлатых дрэў.

Ужо дзесяты год Н. Адамюк працуе ў школе ў мястэчку Нараўка, але на яе семнаццацігадовым настаўніцкім шляху былі школы ў Семяноўцы, Альхоўцы, Старым Ляўкове. Паходзіць жа яна з пушчанскага Скупава, закончыла беларускі клас Бельскага педагагічнага ліцэя, а затым, ужо працуючы, беларускае аддзяленне Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. У 1963 годзе ўдзельнічала ў курсе настаўнікаў беларускай мовы ў Мінску. Цяпер Н. Адамюк вучыць першы клас і выкладае беларускую мову ў VI — VIII класах.

Ініцыятыве і працавітасці Надзеі Адамюк толькі пазайздросціць. Штодзённая падрыхтоўка да ўрокаў, праверка вучнёўскіх прац, выхаваўчыя справы, а таксама не малыя абавязкі гаспадыні дому і маці — усё гэта яна патрапіла спалучыць з актыўнай грамадскай працай. А пачалася яна яшчэ ў часе настаўнічання ў Семяноўцы, калі



мясцовая моладзь з гуртка БГКТ і школьнікі пад яе кіраўніцтвам ставілі „Боты“, „Паўлінку“ і іншыя беларускія п'есы. І потым у Н. Адамюк заўсёды хілілася сэрца да грамадскай працы. Асабліва на школьных і грамадскіх урачыстасцях у гонар гадавін з дня нараджэння У. І. Леніна, свята Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, дзён Савецкай Арміі школьная моладзь пад яе кіраўніцтвам заўсёды рыхтуе бага-

(Працяг на стар. 4)

## БГКТ ХРОНІКА

■ Кожны, хто злажыў свой подпіс на членскай дэкларацыі Беларускага таварыства, абавязаўся выконваць заданні і абавязкі нашай арганізацыі. Да аднаго з гэтых абавязкаў належыць рэгулярнае аплочванне членскіх складчын. У асноўным гурткі БГКТ не маюць клопатаў з выкананнем гэтага абавязку. Аднак дзе-недзе ёсць такія члены БГКТ, якія не аплацілі членскіх складчын за 1973 год, нават і за 1972 год. Згодна са статутам, гурток БГКТ мае права выкрэсліць са спісу членаў тую асобу, якая на працягу двух год не аплочвае членскіх складчын. Гэтак часта робяць нашыя гурткі, але вельмі рэдка паведамляюць зацікаўленым асобам, што з гэтага права гурток можа скарыстаць. А ў статуце БГКТ гаворыцца выразна, што „перад тым, як выкрэсліць некага са спіску членаў, неабходна папярэдзіць яго пісьмовым паведамленнем...“ Значыць, неабходна паведаміць данай асобе аб тым, што павінна яна аплаціць членскія складчыны, і толькі пасля гэтага можна выкрэсліць яе са спісу членаў БГКТ.

■ Варшаўскі аддзел БГКТ арганізаваў нядаўна эстрадны калектыў пад мастацкім кіраўніцтвам Міколы Ждановіча. Аддзел гэты ўпершыню ў гэтым годзе правядзе песенны конкурс. Адбудзецца ён 18 студзеня. Найлепшыя спевакі прымуць удзел у фінальным песенным конкурсе ГП БГКТ, які запланаваны на другую палавіну лютага.

■ Бельскі і сямяціцкі аддзелы БГКТ песенны конкурс рыхтуюць на 27 студзеня, гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку — на 2 лютага, беластоцкі павятовы аддзел БГКТ — на 3 лютага.

■ Гайнаўскі аддзел песенны конкурс БГКТ правядзе супольна з конкурсам на савецкую песню. Прадбачваецца там больш як 50 удзельнікаў. Адбудзецца конкурс 10 лютага.

■ Сакольскаму аддзелу БГКТ дагэтуль не ўдавалася правесці песеннага конкурсу. Там неабходна значна шырэй прапагандаваць яго, неабходна павінна ўключыцца ў прапагандысцкую працу ўсё праўленне аддзела. Калі так станецца, конкурс, запланаваны на 27 студзеня, напэўна адбудзецца. (мх)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"





## РАСЦЕ САКОЛКА

Жыллёвы кааператыў у Саколцы мае амаль 700 членаў і каля 350 кандыдатаў. Існуе ён 10 гадоў. Дагэтуль пабудаваў дзесяць жылых будынкаў на 281 сям'ю. Цяпер будуюцца чарговыя два блокі ў жыллёвым пасёлку „Цэнтр“. Адзін з іх будуюць для сябе і сваіх сем'яў маладыя юнакі і дзяўчаты, члены ЗМС.

Варта дадаць, што ў 1974 годзе тут будзе адкрыты клуб і павільёны, у якіх рамеснікі будуць выконваць розныя паслугі для ўсіх гараджан і навакольных вёсак.

Тэкст і фота **Ц. Я.**

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### НЕМАЁМЫЯ

Колькасць немаёмых амерыканцаў, чые даходы ніжэйшыя за афіцыйна ўстаноўленую „мяжу беднасці", узрастае з кожным годам. Аб гэтым сведчыць у прыватнасці павелічэнне арміі бednякоў, якія купляюць выпускаемыя ўрадам так званыя „харчовыя маркі", што даюць права на набыццё прадуктаў харчавання па некалькі зніжаных цэнах. Гэтыя маркі свайго роду грамадская міласціна — размяркоўваюцца ў сем'ях, якім не хапае сродкаў на харчаванне.

У гэтым годзе паводле прагнозаў міністэрства аховы здароўя, асветы і сацыяльнага забеспячэння, колькасць амерыканцаў, якім давядзецца падвяргнуцца абразлівым працэдурам, што засведчваюць іх права на „харчовыя маркі", узрасце ў параўнанні з мінулым годам прыкладна на 20 мільёнаў чалавек і дасягне 50 мільёнаў.

Улічваючы, што насельніцтва ЗША, паводле даных бюро перапісу, склала на 1 студзеня 1974 года 211,7 мільёна чалавек, гэта азначае, што практычна кожны чацвёрты амерыканец будзе вымушаны звярнуцца да гэтай формы дапамогі.

### АВІЯЦЫЯ ГДР

Самалёты дзяржаўнай кампаніі ГДР „Інтэрфлюг" абслугоўваюць зараз 32 міжнародныя авіяліні агульнай даўжынёй у 69 тысяч кіламетраў. Цяпер сталіца ГДР звязана з 54 сталіцамі і буйнымі гарадамі розных краін.

### ЦУКАР КУБЫ

Цукровая прамысловасць — вядучая галіна народнай гаспадаркі Кубы. Цукровы трыснёг убіраўся раней толькі ўручную рубшчыкамі трыснягу — мачэтэрос. Цяпер у дапамогу ім на палі рэспублікі выходзяць трыснёгаўборачныя камбайны і пагрузчыкі, створаныя кубанскімі і савецкімі спецыялістамі.

### ЗАЯВА БРАНТА

Новы год прынясе Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі „сур'ёзныя цяжкасці, перш за ўсё ў галіне эканомікі, цэн і забеспячэння занятасці насельніцтва", — заявіў канцлер ФРГ В. Брант.

У сваёй заяве канцлер закрануў таксама адносіны паміж партыямі ўрадавай кааліцыі і апазіцыяй, якая ў апошні час разгарнула кампанію рэзкіх нападак на знешнюю і ўнутраную палітыку СДПГ — СВДП.

У сувязі з гэтым В. Брант рашуча асудзіў як „не маючыя прэцэдэнту" нападкі кіруючых дзеячоў ХДС-ХСС на сацыял-дэмакратычную і свабодную дэмакратычную партыі.

### ДЭВАЛЬВАЦЫІ

У Сайгоне аб'явілі аб дэвальвацыі піястра. Яго новы абменны курс — 560 піястраў за амерыканскі долар.

Новую, 25-працэнтную дэвальвацыю камбаджанскай валюты правёў таксама сфарміраваны нядаўна ў Пнампені новы камбінат.

Чарговая дэвальвацыя мясцовых грашовых адзінак сведчыць аб вострых фінансавых і эканамічных цяжкасцях. Скарачэнне вытворчасці, празмерныя ваенныя расходы — усё гэта вядзе да заняпаду эканомікі. (ак)



## БССР

### КАЛГАСНЫ ДОМ КУЛЬТУРЫ

Прыгожая сучасная архітэктура — гэта перш за ўсё заўважаецца, калі глядзіш на нядаўна пабудаваны дом культуры калгаса „Прагрэс" у Гродзенскай вобласці. Сотні чалавек могуць тут адначасова глядзець кінафільм, тэатральны спектакль, або слухаць канцэрт. Ёсць у ім таксама пакоі для работы гурткоў, бібліятэка і даведачна-інфармацыйная зала.

Падобных дамоў культуры ў мінулым годзе пабудавана на Гродзеншчыне многа больш.

### КАЛГАСЫ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

У Смалявіцкім раёне створана першае вытворчае міжкалгаснае аб'яднанне. У яго ўвайшлі калгасы „Звязда", імя Арджанікідзе, імя Леніна і імя Калініна. Узначаліў новае аб'яднанне старшыня калгаса „Звязда" А. Грынкевіч. Гэтая форма арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці ўсё шырэй прымяняецца ў Беларусі. Яна абяспечвае лепшае выкарыстанне прадукцыйных магчымасцей паасобных калгасаў.

### АДПАЧЫНАК ДЛЯ МІНЧАН

Выканком Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных зацвердзіў праект планавай зоны адпачынку „Пціч" для жыхароў сталічнага горада. Яна размешчана на плошчы 1600 гектараў у маляўнічай мясцовасці паблізу Брэсцкай шашы. Тут на берагах водасховішча ў лесапарку летам змогуць адпачываць да 20 тысяч чалавек. База будзе працаваць круглы год. Зімой яна памесціць амаль 6 тысяч гасцей.

### ЦІКАВЫ КАЛЯНДАР

Галоўнае архіўнае ўпраўленне пры Савеце Міністраў БССР падрыхтавала „Каляндар знамянальных і памятных дат па гісторыі Беларусі на 1974 год". У яго ўнесены 454 даведкі аб асноўных падзеях і фактах з грамадска-палітычнага і эканамічна-культурнага жыцця беларускага народа. Каляндар з'яўляецца каштоўным дапаможнікам па гісторыі і сучаснасці Беларусі.

### СЛОВА ПІСЬМЕННІКА

З навагоднім прывітаннем чытачам газеты „Голас Радзімы" выступіў вядомы беларускі пісьменнік Пімен Панчанка. „Трэба сказаць, — піша ён, — што апошнія гады вельмі змянілі нашы вёскі, у іх цяпер зусім іншы выгляд... Не пазнаю я і сваю Бягомльшчыну, дзе прайшло маё маленства. Зніклі неўрадлівыя камяністыя палі, шумяць на прыбранай і дагледжанай зямлі 30—40-цэнтнеравыя ўраджаі. Кіраўніку маіх земляў Ульяне Крышталевіч прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. У спісе Герояў знаходзіцца таксама і звеннявая Ефрасіння Дрозд з Кіраўскага раёна, дзе я перад вайной настаўнічаў".

### ФАБРЫКА МЯСА

У саўгасе „Салюты" на Віцебшчыне будзе пабудаваны жывёлагадоўчы комплекс, разлічаны на вырошчванне і адкорм 24 тысяч свіней у год. Гэтая поўнасцю механізаваная фабрыка будзе даваць штогод каля 27 тысяч цэнтнераў мяса. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### I САКРАТАР ЦК НА МАЗОЎШЫ

I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў Мазоўша. Ён пабываў у гміннай зборнай школе ў Брвінове (такіх школ у краіне ўжо 720), а потым наведаў Жырардаў, дзе азнаёміўся з будовай фабрыкі дамоў. У Жырардаве, як вядома, працуе найбольшая ў краіне ільняная фабрыка.

### ПОЛЬСКІ КАМІТЭТ БЯСПЕКІ I СУПРАЦОЎНІЦТВА У ЕЎРОПЕ

У Варшаве адбылося пленарнае пасяджэнне Польскага грамадскага камітэта бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе. У складзе яго знаходзяцца палітычныя і грамадскія дзеячы, людзі навукі і культуры, духавенства, прадстаўнікі розных прафесій. Тэмай пасяджэння былі заданні і формы дзейнасці камітэта на аснове пастаноў Сусветнага кангрэса мірных сіл у Маскве і II фазы прац Камітэта еўрапейскай бяспекі і супрацоўніцтва.

### ГРУПА БЕЖАНЦАЎ З ЧЫЛІ ПРЫЕХАЛА Ў ПОЛЬШЧУ

30 чылійскіх патрыётаў, якія знайшлі прытулак у пасольстве ПНР у Чылі перад рэпрэсіямі чылійскай вайсковай улады, прыехалі ў Польшчу, дзе іх сардэчна прывіталі прадстаўнікі польскага грамадства.

### СТАРШЫНЯ РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ НА ШЛЁНСКУ АПОЛЬСКІМ

Старшыня Рады Дзяржавы Г. Яблонскі наведаў Шлёнск Апольскі. Ён азнаёміўся з працай прамысловых прадпрыемстваў і сустрэўся з грамадска-палітычным актывам.

### II ПРАГРАМА ТЭЛЕВІЗІІ ДЛЯ ЎСЁЙ ПОЛЬШЧЫ

У 1974 годзе ў Гамбіне пачне працу цэнтральная радыёстанцыя вышынёй 640 м. Дзякуючы ёй у цэлай краіне можна будзе прымаць першую праграму па радыё. II праграма тэлевізіі дойдзе да Беластока і Кашаліна.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА З ГДР

Дэлегацыі ПНР і ГДР правялі нараду на тэму аховы асяроддзя. Асабліва плённа выглядае супрацоўніцтва ў гэтай галіне на прыгранічных тэрыторыях (у ваколіцах Одры і Нысы Лужыцкай).

### СУПРАЦОЎНІЦТВА ПОЛЬШЧЫ І БАЛГАРЫІ

Новы пратакол па супрацоўніцтву ў галіне кінематаграфіі на 1974—1975 г. быў падпісаны паміж абедзвюма краінамі. У рамках святкавання 30-годдзя ПНР і БНР у сталіцах краін будуць арганізаваны рэтраспектыўныя агляды фабулярных фільмаў.

### МІРНАЯ ЗАМЕЖНАЯ ПАЛІТЫКА ПНР

Традыцыйна ў Вілянове пад Варшавай адбылася навагодняя сустрэча Г. Яблонскага з пасламі іншых краін у Польшчы. У сваім выступленні Г. Яблонскі падкрэсліў, што мірнае суіснаванне было і астанецца асновай польскай замежнай палітыкі.

### КУЛЬТУРНАЯ ПАНАРАМА 30-ГОДДЗЯ

У Варшаве распачаўся цыкл штомесячных мерапрыемстваў, звязаных з 30-годдзем ПНР. Кожны месяц іншае ваяводства будзе прадстаўляць свае культурныя дасягненні за 30 год. Першым выступіла Люблінскае ваяводства. (вл)



## ВАЯВОДСТВА

### ПАДЗЯКА

59 беластоцкіх прамысловых прадпрыемстваў і гандлёвых устаноў атрымала ганаровыя дыпломы Цэнтральнага Камітэта ПАРП і Рады Міністраў ПНР за ўклад у банк „30 мільярдаў" у мінулым годзе. Вартасць дадатковай прадукцыі ў нашым ваяводстве значна перавысіла 1 мільярд злотых. Гэта значыць, што калектывы прадпрыемстваў выканалі ўзятыя на сябе абавязацельствы на 140%, а жыхары нашага ваяводства атрымалі больш высакаякасных тканін, мэблі, абутку, харчовых і іншых вырабаў.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ЗМС

13 студзеня ва ўрачыстай абстаноўцы праходзіла X ваяводская справаздачна-выбарная канферэнцыя ЗМС. Рабочая моладзь сустрэла яе дадатковай працай на карысць грамадства, частка моладзі працавала грамадскім чынам на сваіх рабочых месцах нават у дзень канферэнцыі. З дакладам аб дасягненнях і задачах арганізацыі выступіў старшыня ВП ЗМС Ул. Зніщчынскі. I сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі ўручыў найлепшым дзеячам ЗМС дзяржаўныя ўзнагароды, адзнакі імя Янкі Красіцкага і ганаровыя адзнакі „Заслужаны для ЗМС". Канферэнцыя прыняла праграму дзеяння ваяводскай арганізацыі на 1974—75 гады.

### СУСТРЭЧА З З. КУРОЎСКІМ

Напярэдадні X ваяводскай канферэнцыі ЗМС у спулдзельчым доме культуры адбылася сустрэча ЗМС-аўскай моладзі з I сакратаром ВК ПАРП З. Куроўскім. У час сустрэчы гаварылася аб дасягненнях ваяводскай арганізацыі ЗМС у апошнія гады, аб ролі, правах і абавязках моладзі на прадпрыемствах, аб месцах працы для выпускнікоў школ і інш.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ З ЛІТВЫ

У Беластоку прабывала партыйная дэлегацыя Літоўскай ССР на чале з сакратаром ЦК кампартыі Літвы тав. Р. Сангаілам. У час сустрэчы ў Ваяводскім камітэце партыі абмяркоўваліся справы прыгранічнага супрацоўніцтва. Прадыскутаваны быў план прыгранічнага абмену на гэты год.

### НАРАДА Ў ВАЯВОДЫ

У Ваяводскім упраўленні адбылася нарада начальнікаў паветаў, іх намеснікаў, кіраўнікоў аддзелаў сельскай гаспадаркі і дырэктараў устаноў, якія абслугоўваюць вёску. З дакладам выступіў беластоцкі ваявода З. Спрыха. Галоўнымі заданнямі на 1974 год ён назваў далейшую інтэнсіфікацыю гаспадарання зялёнымі ўгоддзямі, хутчэйшае загаспадарванне зямель з дзяржаўнага фонду зямлі, павелічэнне прадукцыі раслінаводства шляхам лепшага выкарыстоўвання мінеральных угнаенняў, лепшае забеспячэнне сельскагаспадарчай сыравінай прамысловых прадпрыемстваў, а таксама павелічэнне кармоў для жывёлагадоўлі.

### УЗНАГАРОДА МІНІСТРА

Рэктар беластоцкай Вышэйшай інжынерскай школы праф. д-р Т. Бэлдоўскі атрымаў узнагароду міністра навукі, вышэйшага школьніцтва і тэхнікі. Узнагарода прызнана за рост навуковых кадраў. (яч)




**Niedziela — 20.I.**

7.30 TV Kurs Rolniczy. 8.05 Przypominamy, radzimy. 8.15 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.35 Alarm przeciwpożarowy trwa. 8.45 Bieg po zdrowie. 8.55 Program dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 W starym kinie: „Złodziej z Bagdadu". 12.10 Dziennik. 12.25 „Muzy bez etatu". 12.55 „U sołtysa" — reportaż. 13.20 „Autor i jego piosenki" — Jerzy Ficowski. 14.10 Dla dzieci: „Aby dzieci wiedziały" cz. I, widowisko Teatru Lalek „Drak". 14.55 Piórkiem i węglem. 15.25 PKF. 15.35 „Wychowawca królów" — program filmowy o Janie Długoszu. 16.05 Losowanie Toto—Lotka. 16.20 Wielka gra. 17.10 Reportaż. 18.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Czarna sakwa" — odc. V ser. filmu TVP „Czarne chmury". 21.10 Festiwal Piosenki Luksemburg 73. 22.20 Informacyjny Magazyn Sportowy. 22.50 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek — 21.I.74**

12.45 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 39. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Uprawa roślin — lekcja 24. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 Echo stadionu. 17.55 TV Kurier Warszawski. 18.10 Oferty. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: A. Wydrzyński „Środek nieba". 21.00 Film z serii „Love story". 21.50 Grają „Kansas City Stompers" (Dania) — jazz tradycyjny. 22.15 Dziennik.

**Wtorek — 22.I.**

9.10 „Jenny" — film ameryk. („Strzały w Dodge City"). 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Język polski. Bolesław Prus „Anielka". 10.30 „I znów mam swój dom" — film dok. rum. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski. Luigi Pirandello „Tak jest, jak się państwu zdaje". 15.20 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 39. 15.55 TV Technikum Rolnicze — Uprawa roślin — lekcja 24. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: E. Burakowska „Dokąd iść". 17.05 „Rodzina Durtolów" — film franc. — odc. 18. 17.35 Dla młodzieży: „W bliskim planie". 18.00 Dla młodzieży: „Uniwersytet 8 milionów". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Artyści, których podziwiamy" — Elżbieta Stefańska-Łukowicz — klawesyn. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Jenny" — film ameryk. („Strzały w Dodge City"). 21.05 Świat i Polska. 21.50 „Podróż w jedną stronę" — film estradowy TVP. 22.20 Dziennik. 22.35 Wiadomości sportowe.

**Środa — 23.I.**

7.30 Film fabularny. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia. „Odkrywamy świat atomów". 10.00 Dla szkół: (kl. V) Historia. „Przebudzenie Pompei". 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka. „Prąd elektryczny w metalach". 12.45 TV Technikum Rolnicze — Fizyka — Lekcja 16. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Botanika — Lekcja 30. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 NURT (Pedagogika) „Wybrane problemy polityki oświatowej PRL". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Harcerski raport". 17.10 Losowanie Małego Lotka. 17.20 Informacje — Towary — Propozycje. 17.30 Sylwetki X Muzy — Kazimierz Wichniarz. 18.00 „O pożytkach z mrozu płynących" — rep. film. 18.30 Kronika Warszawy i Mazowsza .18.50 „Są poeci" („Zdarzenia, zmyślenia"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Czajkowski" — film fab. radz. 22.45 Dziennik. 23.00 Wiadomości sportowe.

**Czwartek — 24.I.**

10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski. „Mickiewicz — Słowacki — Krasiński". 10.35 „Czajkowski" — film fab. radz. 13,00 „Drezdeńskie skarby" — film dok. NRD. 13.30 TV Kurs Informatyki: „Sterowanie procesami inwestycyjnymi". 14.00 Matematyka w szkole: „Pogłębianie pojęcia iloczynu liczb naturalnych". cz. I. 15.20 TV Technikum Rolnicze — Fizyka — lekcja 18. 15.55 TV Technikum Rolnicze — lekcja 30. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 Program muzyczny. 18.10 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.30 25 lat RWPG. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: E. Lanham „Żona z orchideami". 21.25 Rodzina. 21.55 Rzecz o Alkasynie i Nicolecie. 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe.

**Piątek — 25.I.**

9.10 „Czarna sakwa" — film TVP — odc. V („Czarne chmury"). 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Geografia „Wrocław". 10.30 „Maszed — I — Misr znów ożyje" — film dok. radz. 11.05 Dla szkół: (kl. II) „Uwaga! Niebezpieczeństwo!" 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie. „Podstawowa Organizacja Partyjna PZPR". 12.45 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — powtórzenie. 13,25 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — powtórzenie. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy — Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.15 Wychowanie fizyczne receptą na zdrowie. 17.45 „Tygodnik Informacyjny Młodych". 18.00 Dla młodzieży: „Dwie szkoły — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Falochron" — reportaż. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Śpiewa Henri Des. 20.45 Panorama. 21.25 Teatr na świecie: Fan Vavrincova „Rodzina na pokaz". 22.10 Informacje — Towary — Propozycje. 22.20 Dziennik. 22.35 Wiadomości sportowe.

**Sobota — 26.I.**

8.30 „Maroko" („Filmy z Marleną Dietrich"). 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Geografia. „Wielka Brytania". 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku. „Układ krwionośny". 14.20 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — powtórzenie. 14.55 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — powtórzenie. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Roztrzepany wróbel" — film radz. 17.00 Dla młodzieży: „Turniej sportów obronnych". 17.45 Rekonesans w przyszłość. 18.10 Nie tylko dla pań. 18.35 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Maroko" („Filmy z Marleną Dietrich"). 21.45 Gwiazdy siedmiu stolic — Głos ma Sofia. 22.45 Dziennik. 23.05 Wiadomości sportowe i sprawozdanie z mistrzostw Europy w jeździe szybkiej na lodzie. 23.25 „On i Ona" — jugosłowiański program rozrywkowy.




**Piątek, 18 stycznia**

8.15 Koncert laureatów przeglądu wiejskich brygad agitacyjnych. 9.50 Dla miłośników baletu. 13.05 Program dnia. 13.10 Filmy dokument. 13.55 Szkoła szachów. 16.35 Świat socjalizmu. 17.05 Portrety twórców. 17.55 Jak hartowała się stal. Seryjny film. 4 część. 19.00 Czas.

**Sobota, 19 stycznia**

7.00 Program dnia. 7.30 Mozaika muzyczna. 7.45 Przegląd międzynarodowy. 9.15 Poezja. 9.45 Zespół pieśni i tańca Czuwaszskiej ASRR. 11.30 Pogram brygady agitacyjnej z Pińska. 12.00 Hokej. CSKA—„Spartak". 14,15 Film dokument. 14.35 Film animowany. 14.55 Cyrk. 16.00 Panorama nowin. 17.55 Jak hartowała się stal. 5 część. 19.00 Czas. 19.30 Koncert finałowy festiwalu TV „Piosenka — 73" (Powtórzenie).

**Niedziela, 20 stycznia**

7.00 Program dnia. 8.55 Spotkanie z pisarzem I. Nowikowem. 9.30 Film dokument. 10.00 Kiosk muzyczny. 11.30 Panorama międzynarodowa. 12.00 Hokej. „Dynamo" (Moskwa) — „Skrzydła Rad" (M). 15.05 Film animowany dla dzieci. 16.15 Koncert życzeń. 17.00 Klub filmowy. 18.05 Jak hartowała się stal. 6 część. 19.00 Czas. 19.30 Ekran dokumentalny.

 

**У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ**

## Несмяротны Мікіта

Бадай няма ў нас больш папулярнай п'есы за «Мікітаў лапаць». Колькі ўжо пакаленняў беларускіх самадзейнікаў не выпускае яго са свайго рэпертуару. З п'есай гэтай паспяхова выступае і калектыў з Меляшкоў Беластоцкага павету, які ў мінулым годзе праславіўся арыгінальным «Вяселлем», абапертым на мясцовым фальклоры.

Наш фотарэпарцёр пабываў у Меляшках і ўвекавечыў некалькі сцэнак з «Мікітавага лапця». Вось яны. Фота Я. Цялушэцкага.



*Агульная сцэнка. Выступаюць Леаніда Шыкуць, Вера Ярмолік, Юлія Домань, Валя Дарашкевіч, Галіна Сянкевіч і Аня Дарашкевіч.*



*Хоць яблыкам пачастую Зоську — разважае Мікіта (Юлія Домань).*

*Большым планам. Вера Ярмоліч (Дар'я) і Валя Дарашкевіч (Яўмень).*

*Мікіта ўсіх рассмяшыў.*





**ЛІСТ З Задрыпанкі**

## Гапка ў Празе

Гапка паехала ў Прагу. ГС, значыць, зафундаваў ёй такую экскурсію.

Уся Задрыпанка зайздросціла. Усе раптам пачуліся не горшымі ваяжорамі. Парфен нават адкрыта гаварыў, што ён больш дастойна прадстаўляў бы задрыпанскае грамадства (чэхі, маўляў, народ тэхнічны, і Гапку чакае міжнародны канфуз). Але ўспомніўшы нядаўні сход, на якім яго Колька заклікаў задрыпанцаў шырэй адчыняць у свет свае вароты (відаць, ваяж Гапкі — вынік эманальнай палітыкі Таварыства сяброў Задрыпанкі), хутка ўціхамірыўся.

Кастусь нічога не гаварыў, але па ўсім відаць было, што таксама цяжка перажывае рашэнне ГС-у.

І іншым задрыпанскім верхаводам пяклі закранутыя раны пыхлівасці. Аднак, калі Гапка шчаслівa вярнулася з замежнага ваяжыравання, і ТСЗ арганізавала сустрэчу з ёй, супернікі ў эманальным пытанні не дэманстравалі сваіх імкненняў падкрэсленай адсутнасцю, але з'явіліся ў камплекце.

І так пачаўся першы вечар з прадбачаных планам ТСЗ „Задрыпанскіх вечароў".

У сямейнай, натуральнай атмасферы Гапка захаплялася гасцініцай „Інтэрнацыяналь", у якой жыла. Усё роўна, што варшаўскі Палац культуры! А пакоі! Сцены з люстраў! І ты, як варожка ў навагоднюю ноч. Ляжыш на тапчане і звоніш (тэлефон пад рукою):

— Просім кнэдлікі!

І дзверы адчыняюцца, і muž у белым падносіць кнэдлікі:

— Prosim, kralovna...

Вочы задрыпанак гараць (вось пажыць бы так!), а Кастусь падахвочвае:

— Кажуць, чужаземцы надта ласыя на нашых жанчынак. Толькі і выглядаюць іх.

Гэта была яўная правакацыя. Гапка паступіла ганарова. Пусціўшы міма вушэй Кастусёву яхіднасць, расказала наступную гісторыю:

— Вечар прапанавалі нам правесці ў рэстаране „Люцэрна". Чаму не! Вабіла і сваяцкая назва. Думалі, будзем чуцца, як дома. Дзе там! „Шык-мадэрн" — як потым скажа адзін багацей з Мурманска. Самыя „цізінцы" (чужаземцы).

Заказалі кнэдлікі. Сядзім, піўцо папіваем (а якое піва!), ажно побач падлога ўверх ідзе. І ўжо гэта не падлога, а сцэна, з якой „умэльцы" (артысты) заклікаюць veseliti se.

Дык падыходзіць да нас адзін немец. Іхдойч называўся. Тыцае мне ў грудзі пальцам:

— Ду русіш?

— Ду задрыпанка, — адказваю.

— Вас іст задрыпанка? — пераходзіць ён на нашу мову.

— Не вас іст, а што іст, — папраўляю яго і тлумачу: — кнэдлікі!

— Ду кнэдлік? Гут! — цешыцца дзівак, бы блёкату наеўся.

Потым падсеў багацей мурманскі. Той, даведаўшыся, хто я, сказаў:

— А, задрыпанка? Панятна...

І ўвесь вечар напяваў:

— Увезу тебя я в тундру...

І спакушаў мядзвежымі шкурамі, катаннем на аленях... урэшце падарыў Крайнюю Поўнач.

— А мы сушым галаў: дзе нашы скрытыя рэзервы? — зноў перабіў Гапку Кастусь. — Шырэй адчыняйма задрыпанскія вароты і нашы жанчынкі паўсвету заваюць. Але гэта адлеглыя шанцы. Ты нам, Гапка, скажы, што за мяжою здабыла больш прыдатнага?

І Гапка зразумела, што гарыць. Пачала было даказваць практычнасць люстраных сцен і высоўнай сцэны, але, сустрэўшы дружны рогат аднавяскоўцаў, здалася.

Фактычна, паездка была няўдачная. Кастусь больш не наступаў: перажываў сваю радасць моўчкі. З агульнага гоману выдзяляўся голас Парфена:

— А я не казаў!..

Раны пыхлівасці Гапкіных супернікаў зацягваліся гаючым бальзамам.

Рабіце вывады, чытачы. Выязджаючы за мяжу, падглядайце суседзяў з думкай аб сваёй вёсцы.

**Ваш Даніла**

**А МОЖА ГЭТАК?**




У танцавальнай зале грае **вясёлка** рознакаляровага святла, а з „рэгентаў" плывуць бурлівыя такты папулярнай мелодыі „Мехіко". Паволі раз'ясняецца сцэна, прыціхае музыка.

— Добры вечар! Вітаем на чарговай нашай дыскатэцы...

Гэтымі словамі кожную сераду вядучыя А. і М. Вансовічы, З. Кулак і А. Альбовіч адкрываюць у Павятовым доме культуры ў Саколцы вечар адпачынку. Адразу скажам — вечар добрага, культурнага адпачынку пры сучаснай музыцы, польскай і замежнай. Вядучыя уступным словам знаёмяць прысутных з ансамблем або салістам, а потым з праігрывацеляў ідуць музычныя творы. Моладзь слухае, танцуе, удзельнічае ў віктарынах, конкурсах, гульнях. І ўсё гэта адбываецца без непатрэбнай афіцыяльшчыны — жыва і весела. Так бывае кожны тыдзень па пяць-шэсць гадзін пры поўнай зале.

— Якім коштам? — пытаюся ў інструктара ПДК па музычных справах Багдана Бялёнка.

— Грамадскім, абсалютна грамадскім, — чую ў адказ.

— Але ж — вядучыя, людзі да светавога афармлення, новыя пласцінкі і магнетафонныя запісы, парадак на зале?

— З гэтым апошнім у нас найменшы клопат. За ладам у зале пільна сочаць нашы грамадскія „парадкавыя" — Е. Таўдуль і М. Вансовіч. А калі хто-небудзь з прысутных не паводзіць сябе адпаведна, дык не атрымоўвае болей права ўступу на дыскатэку. Сярод жа тых, хто найпрыгажэй гуляе, у канцы разлясоўваецца чатыры бясплатныя білеты на наступную вечарыну. Зрэшты, маладыя людзі хочуць удзельнічаць у добрых справах і ўносяць у іх свой уклад. Прыклад гэтаму — нашыя вядучыя. Усе яны — студэнты Электранічнай студыі ў Беластоку. Дасканала пануюць над апаратурай і святлом. Кожны тыдзень спецыяльна прыязджаюць з Беластока, каб весці дыскатэку. Самі вышукваюць музычныя навінкі ў магазінах, а часцей за ўсё — у знаёмых, калегаў, перапісваюць на ленту адусюль, дзе толькі дасца. Абменьваюцца запісамі з беластоцкімі „Геркулесамі", апошнім часам наладзілі сувязь з варшаўскім Цэнтрам культуры Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

— Цешымся з нашай дыскатэкі, — заўважае кіраўнік ПДК Ірэна Вайцяхоўская. — Папулярная яна ў нас. На кожную вечарыну валіць натоўпам не толькі з Саколкі, але і з Чорнай Беластоцкай, Кузніцы, Крынак ды з самога Беластока. Не кажу ўжо пра дзяўчат і хлопцаў з навакольных сёлаў. Білет каштуе ўсяго 15 злотых. Аднак пры нашых пэдэкаўскіх, надта ж скромных, сродках, здабыць 500—600 злотых чыстага даходу за адзін-адзіны вечар — гэта ж цэлы скарб!

— Планы на будучыню?

— Намерваемся даваць выязныя канцэрты, — інфармуе Б. Бялёнка. — У Крынках і Кузніцы ёсць зусім не выкарыстаныя ладныя танцавальныя залы. Будзем ездзіць туды адзін-два разы ў месяц.

...Недзе пасля дзесятай вечара з раз'ясненай сцэны пры апошніх тактах музыкі вядучыя пажадалі:

— Спакойнай ночы! Запрашаем на наступную нашу дыскатэку...

Іх словы патанулі ў буры апладысментаў, апладысментаў шчырых і заслужаных.

**Ігнат Снарскі**




**АБ ТВОРАХ САКРАТА ЯНОВІЧА**

Як вядома, варшаўскае выдавецтва „Іскры" ў мінулым годзе выпусціла ў свет том прозы Сакрата Яновіча *„Вялікі горад Беласток"*. Прыпомнім, што дэбютаваў ён у 1969 годзе зборнікам „Загоны". Ужо тады шмат газет і часопісаў станоўча і прыхільна прывітала яго самастойнае выступленне на літаратурнай ніве.

Аднак моўны бар'ер абмяжоўваў круг магчымых чытачоў і крытыкаў. Прозай С. Яновіча зацікавіўся рэдактар выдавецтва „Іскры" Ежы Літвінюк, які выбраў творы для перакладу і заахвоціў перакладчыкаў, вядомых польскіх пісьменнікаў Яна Гушчу, Мацея Канановіча, Эдварда Рэдлінскага і Віктара Варашыльскага.

Кніжка *„Вялікі горад Беласток"* паявілася ў палавіне 1973 года і хутка разыйшлася сярод чытачоў. Ежы Літвінюк ва ўступным слове пісаў *„Калі я зусім выпадкова наведаў родныя старонкі аўтара, аказалася, што гляджу я на іх яго вачыма. Такая лірычная сіла замалёвак Яновіча, так умее кшталтаваць ён сваё і нашае адчуванне"*.

Падобную ацэнку польскага дэбюта Сакрата Яновіча далі іншыя аўтары. Іх рэцэнзіі на зборнік *„Вялікі горад Беласток"* паявіліся ў **„Трыбуне люду"**, **„Газеце Беластоцкай"**, **„Газеце Альштынскай"**, **„Штандары маладых"**, **„Тыднёвіку культуральным"**, **„Палітыцы"**, у двухтыднёвіку **„Новыя кніжкі"** і ў штомесячніку **„Кантрасты"**. Такім чынам прозвішча Сакрата Яновіча як члена Саюза польскіх пісьменнікаў і таленавітага празаіка стала вядома чытачам усёй краіны.

(вр)



 

 

# ВОЛАТ ПРАЦЫ

(Пачатак на стар. 1)

тую мастацкую праграму беларускіх інсцэніровак, вершаў, песень, танцаў. І сама Н. Адамюк выступае і перад школьнай моладдзю, а таксама на грамадскіх урачыстасцях з дакладамі на беларускай мове.

Н. Адамюк апякуецца школьным гуртком Таварыства польска-савецкай дружбы. Некалькі год таму назад гурток заняў першае месца ў Гайнаўскім павеце і чацвёртае ў Беластоцкім ваяводстве. Школа атрымала шэраг рэчавых узнагарод, а апякунка гуртка была адзначана Залатой адзнакай ТППР.

У школе ў Нараўцы па яе прапанове быў створаны рэгіянальны пакой. Сабрана тут шмат экспанатаў беларускай народнай матэрыяльнай культуры, асабліва вырабаў з дрэва, сярод якіх знаходзяцца і такія, што і славутыя дзяржаўныя музеі могуць пазайздросціць. Усё гэта належным чынам апрацавана і размешчана ў вітрынах за шклом. Не пакой памятак, а сапраўдны музей!

Не занядбала Н. Адамюк і мясцовы беларускі фальклор. Старшакласнікі па яе ініцыятыве сабралі шмат народных песень і казак, некаторыя творы выконвалі на школьных урачыстасцях, а затым, у 1971 годзе, выступілі з імі на павятовым і цэнтральным аглядзе „Беларуская песня“, займаючы на іх першыя месцы.

Шафы, шафачкі ды шуфляды ў класе Н. Адамюк пухнуць ад мноства граматычных табліц, ілюстрацый да паасобных тэм, апавяданняў, казак, вершаў. Ніводзін урок у Н. Адамюк не адбываецца без наглядных дапаможнікаў. І кожны з іх — гэта праца або самой настаўніцы або вучняў пад яе наглядам. Яна ніколі не абмяжоўваецца да матэрыялу, які змешчан у падручніках. Часта звяртаецца да „Зоркі“, савецкіх беларускіх дзіцячых і маладзёжных часопісаў, „Нівы“, „Беларусі“, „Маладосці“. І яе выхаванкі любяць чытаць.

Ці ў Н. Адамюк грамадская дзейнасць абмяжоўваецца толькі школай і моладдзю? Зусім не! Яна — актывіст гуртка вясковых гаспадыняў у Забалоччыне. А гурток гэты — адзін з лепшых на Гайнаўшчыне. Арганізаваў курсы па падрыхтоўцы прадуктаў і страў з малака, мяса. Цяпер плануе курс па гадоўлі хатняй птушкі. Нядаўна ў конкурсе па вырошчванню гародніны і кветак атрымаў каштоўныя ўзнагароды.

Ці трэба дадаваць, што зусім слушна ў чэрвені 1973 года Надзеі Адамюк была прызнана ўзнагарода міністра асветы трэцяй ступені?

Так. Ёсць сярод настаўніцтва Беласточчыны людзі самаахвярнай працы. Імі мы ўсе ганарымся.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



## ЗА ЭСТЭТЫКУ ВЁСКІ

Хто пабываў у такіх вёсках, як Сухавольцы, Чыжы і Стары Корнін у Гайнаўскім павеце, або Плюцічы і Пасынкі ў Бельскім павеце, ці ў многіх другіх, падобных вёсках, той сцвердзіць, што людзі там дбайныя, любяць парадак і стараюцца, каб іх сялібы і вёскі выглядалі эстэтычна. А гэта справа не простая: павінен жа быць і будынак прыгожы, і чысты панадворак, а як прыемна, калі ля кожнай хаты ёсць акуратная агароджа, жалезная ці нават драўляная, усё роўна якая, абы акуратна зробленая. На што як на што, але на гэта хапае ў кожнага гаспадара. Здаецца, што за брак агароджы варта было б караць нават штрафам.

На здымку вы бачыце хату перадавога гаспадара Уладзіміра Цімашука з вёскі Сакі, што ў Бельскім павеце. Ён выцацкаў свой дом, зрабіў хаця драўляную, але прыгожую агароджу. (мх)




## МАЦІ

Анна Каліноўская, жыхарка вуліцы Грунвальдскай, як і раней, жыве надзеяй на лепшае. У 1941 годзе муж яе пайшоў на вайну. Чакала яго, выглядала, вочы выплакала па ім. Муж не вярнуўся. Прыйшлі немцы, спалілі іх вёску Міклашэва, што каля Нараўкі, спалілі іх дом, пабудаваны ўласнымі рукамі і найдаражэйшы сэрцу. Вывезлі Анну Каліноўскую разам з іншымі людзьмі ў Дабрынёўку і выкінулі на вуліцу. Здавалася тады, што яна з двума дзецьмі не пражыве, што не перанясе яе сэрца такога гора.

— Жылі, — расказвае яна, — потым у Юшкавым Грудзе, а пазней у Беластоку. Пасля вызвалення людзі вярталіся ў свой родны кут, на свае папялішчы, быццам тыя мурашкі, будавалі сабе жыллё.

Анна Каліноўская асталася ў Беластоку. Не было ёй з кім будавацца і таму не вярталася.

Жыла надзеяй, што вырасце сын, будзе працаваць і будзе ім добра. І вырас сын Уладзімір, і пачаў працаваць, і піць пачаў. Маці прасіла, угаварвала, плакала — нічога не памагала. Думала, што як ажэніцца, мо паразумнее. Ажаніўся, але не пераменіўся. Пайшлі дзеці, і гора стала большае, як было. Маці была добрым апекуном унукаў, добрай была і для нявесткі, але сын прыносіў крыўду ім усім. Жонка стала бунтавацца. Маці рабіла ўсё, каб утрымаць сям'ю, каб не дайшло да разводу, але не ўтрымала. Жонка кінула п'яніцу.

Матчынае сэрца часам да наіўнасці добрае, адданае дзецям. Усё даравала сыну, хаця той піў і валачыўся з іншымі жанчынамі. Пасля адну такую „замэльдаваў“ у сваю кватэру і жыў з ёй на „веру“ нейкі час. Але пасля чарговай авантуры ў „кнайпе“ засудзілі яго на два гады як рэцыдывіста. Ён пайшоў сядзець, а маці жыве і чакае сына з турмы. Верыць яна, што сын урэшце зразумее свае жыццёвыя памылкі і ўспомніць добрыя парады сваёй маці.

У хаце Анны Каліноўскай чужая жанчына не жыве, але „замэльдавана“ разам з яе дзецьмі. Анна Каліноўская нічога не можа зрабіць. Дом пойдзе пад знос. Усе прыпісаныя тут атрымаюць кватэры ў блоку. Былая каханка сына, такім чынам, мае шанцы атрымаць кватэру. „Сын твой, — гаворыць яна маці, — мне непатрэбны. Патрэбная мне толькі кватэра“.

А маці далей думае толькі пра сына, думае аб кватэры для яго ў новым блоку, верыць, што стане ён чалавекам і яна ў яго сям'і знойдзе свой прычал. Жыве гэтай надзеяй і ўсе сілы прыкладае, каб вымэльдаваць са сваёй хаты жанчыну з падрастаючымі дзецьмі, жанчыну, якая працуе ў кіёску з півам і якую сын-бесталкоўшчына прыпісаў у яе хату.

**Міхась Сваяк**

# НА ПТУШКАМБІНАЦЕ

Птушкакамбінат у Беластоку мадэрнізуецца і разбудоўваецца. Коштам 70 мільёнаў зл. мадэрнізуецца бойня, якая будзе мець спецыяльныя каморы-халадзільнікі. Ад чэрвеня 1973 года коштам 50 мільёнаў зл. рыхтуецца пляц адкормлівання гусей, на якім будзе адгадоўвацца 200-250 тысяч гусей і 1,5-2 мільёна качак. Гусі дадуць 1800 тон мяса ў год, качкі — 3,5 тысячы тон. Экспарт гусінага і качынага мяса будзе складаць 70 працэнтаў прадукцыі прадпрыемства.

Адкуль цяпер прадпрыемства бярэ птушку? Кантрактуюць курэй, гусей і качак спулдзельні прадукцыйныя, калектывы гаспадароў і індывідуальныя гаспадары. Усе яны маюць свае фермы, якія далей разбудоўваюцца. Да 1980 года згодна з планамі кантрактацыя дасягне 8 мільёнаў штук дамашняй птушкі, што ў суме дасць 10 тысяч тон мяса.

Прадпрыемства вядзе таксама кантрактацыю яек, гадавая скупка іх дасягае 140 мільёнаў штук. Апрача таго, займаецца інкубацыйнай прадукцыяй дамашняй птушкі, перш за ўсё куранят.

Дырэктар прадпрыемства Мікалай Тамашук паведаміў нам (размову з ім мы вялі 11 снежня), што прадпрыемства за 11 месяцаў выканала ў 102% гадавую прадукцыю. Гадавы план экспарту на працягу 11 месяцаў выкананы ў 102,1%, у птушцы бітай — у 110%, у інкубатарскай прадукцыі — у 120%.

Увесь снежань прадпрыемства працавала ў лік 1974 года. Наогул трэба сказаць, што гэта прадпрыемства рэнтоўнае, дынамічнае, прадпрыемства з добрым, працавітым калектывам. Яно ўмее мабілізаваць людзей да працы, умее змагацца з несумленнымі працаўнікамі, выкрываць камбінацыі і зладзействы. Удзельнікаў былой курынай аферы спаткала справядлівае судовае пакаранне.

1974 і 1975 гады будуць даволі цяжкімі для прадпрыемства. Мадэрнізацыя патрабуе асваення і вялікіх намаганняў.

**М. Хмялеўскі**

## Добрая праца перш за ўсё

(Працяг са стар. 1)

няй. Прыйшоў ён сюды працаваць простым рабочым, потым быў брыгадзірам, а ўжо вось 7 год кіруе працай прадпрыемства. Раней здабыў спецыялістычную падрыхтоўку. Да людзей добрай работы можна залічыць таксама Мікалая Дарашкевіча са Страшава, які працуе ад пачатку існавання сталярні, брыгадзіра Аркадзія Трахімчыка і Тадэуша Шараноса з Гарадка, Сяргея Марцінчыка з Меляшкоў, Аляксандра Грэся з Пяшчанікаў. Яны і ўсе іншыя рабочыя змагаюцца за лепшыя дасягненні ў працы, за лепшую якасць прадукцыі, за паспяховае выкананне планаў.

**Я. Цялушэцкі**

## Дзяўчына з 10-га ліцэя

Лідзія Герасімюк з Дубіч Царкоўных з'яўляецца вучаніцай беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і адначасова з запалам выконвае абавязкі старшыні гуртка БГКТ ў сваёй вёсцы. З ёю ў праўленні працуюць Ніна Петручук — касір, Яўгенія Хіліманюк — сакратар.

Нядаўна на справаздачным сходзе гуртка ўступіла ў рады БГКТ 18 новых членаў, якія папоўнілі гурток. На тым жа сходзе быў апрацаваны план працы на асенне-зімовы сезон, уплачаны ў цэласці членскія складчыны.

Гурток, усе яго члены клапоцяцца, каб у іхняй вёсцы кожны жыхар быў падпісчыкам „Нівы“, каб на кожным стале не бракавала беларускага календара.

Супольна з іншымі арганізацыямі гурток БГКТ арганізуе ў святліцы акадэміі, сустрэчы, фільмы, газеты і фотагазеты.

Гайнаўскі беларускі ліцэй нумар 10 можа пахваліцца актыўнымі вучнямі і вучаніцамі, адной з якіх з'яўляецца Лідзія Герасімюк.

**Віктар Бура**
сакратар аддзела БГКТ у Гайнаўцы




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**КАРУСЬ КАГАНЕЦ — ЧАСТКА VII**
**Лісты, жывапіс, пераклады.**

Удалося нам пазнаёміцца толькі з чатырма лістамі Каруся Каганца. Усе яны былі напісаны пісьменнікам да жонкі Ганусі. Лісты гэтыя пісаў Карусь Каганец у 1889 г. У адрозненне, мабыць, ад усіх беларускіх пісьменнікаў XIX ст., якія, наколькі нам вядома, у перапісцы карысталіся польскай або рускай мовамі, Карусь Каганец пісаў свае лісты на беларускай мове.

Захаваныя чатыры лісты не маюць ніякай сувязі з літаратурнымі справамі, іх змест звязаны з сямейным жыццём, пачуццямі, матэрыяльнымі праблемамі. Лісты дасканала характарызуюць Каганца як чулага мужа. Іх змест напоўнены эмацыянальнасцю, прывязанасцю, каханнем да сваёй жонкі. Глыбокая клапатлівасць пра здароўе жонкі, прывязанасць да яе і цёшчы прабіваецца амаль у кожным радку лістаў пісьменніка. Вось некалькі фрагментаў: „Вот мне тваіх вочэк шкада. Чы то конешно Тобе цяпер шыці? Некалі, Бог даў бы, пашылася б. Матце дужэ, дужэ дзякую, што на мене так ласкава. І скажы мне, Ганусю, чы я гэто, як кажэш, заслугоўваю, што ж такога добрага зрабіў? Бо як мне здаетца, то я саўсім мала варты чалавек“.

Каганец кахаў жонку, і факт гэты акрэсліў характар яго лістаў, у якіх ён дакладна апісваў занятні, справы, дэталі, нават сны. Зрэшты, і сны мелі пацвярджаць ідэю кахання. Вось яшчэ адзін урывак з ліста: „У панідзелак я Цябе сніў; здаецца Ты якуюсь штуку паказвала: узяла накрыла штось на зямле коўдраю, сказала гэто ўсё абручом абвесці і што тое з-пад коўдры мае знікнуць, хоць я буду пільнаваць“. Падаўшы многія іншыя дэталі свайго сну, пісьменнік піша: „...Сеўшы тут пры Табе, пацалаваў, а Ты, пра штукі свае забыўшыся, села, і абняліся мы моцно, моцно. Нема ведама, як бы доўга абнімаліся, бо і я не хацеў Цябе першы пусціці і Ты такжэ само, але на той час прачнуўся“.

Трэба сказаць, што не ўсе фрагменты лістаў Каганца такія рамантычныя. Нямала ў іх момантаў бытавых, звязаных з гаспадарчымі намерамі, працай і асабліва з коньмі, якія пісьменнік, відавочна, моцна любіў.

З характарызаваных лістаў відаць, што пісьменнік любіў пісаць лісты і што прадстаўленыя лісты — гэта толькі невялікая частка яго перапіскі. На жаль, нам не ўдалося пазнаёміцца з іншымі лістамі Каганца.

Апрача літаратурнай творчасці, займаўся Каганец таксама жывапісам. Захавалася значная колькасць яго рысункаў, карцін, партрэтаў. У сваёй тэхніцы выкарыстоўваў Каганец і аловак, і туш, і алейныя фарбы. Займаўся таксама разьбой па дрэве і косці. На вялікі жаль, карціны і рысункі Каганца ў большасці загінулі ў перыяд апошняй вайны. Каганец маляваў тое, з чым сустракаўся ў сваім наваколлі: у вёсках, на сплавах, на кірмашах. Несумненна, галоўным героем карцін Каганца была беларуская прырода. Прыродны пейзаж, свет звяроў і птушак — гэта аб'екты, да якіх звяртаўся Каганец найчасцей. Цікавіўся таксама людзьмі: сяляне, паляўнічыя, жабракі, лірнікі, дзеці мярэдка былі героямі карцін.

Каганец як мастак вядомы і тым, што ілюстраваў падручнік Якуба Коласа „Другое чытанне для дзяцей беларусаў“.

Сярод заслуг Каганца трэба яшчэ назваць яго пераклад на беларускую мову навукова-папулярнай брашуры „Гутаркі аб небе і зямлі“ (1907 г.), а таксама аўтарства школьнага падручніка „Беларускі лемантар“, які выдаў ён ананімна ў 1906 г.

Для інфармацыі варта сказаць, што Каганец быў сваяком славутага французскага паэта Апалінэра. Дзед Апалінэра быў братам бацькі Каганца. Выехаў ён з Беларусі пасля лістападаўскага паўстання 1831 г.

З усяго дагэтуль сказанага відаць, што Каганец быў чалавекам усебакова здольным. Суровыя ўмовы не дазволілі яму развіць усіх здольнасцей і магчымасцей. Нягледзячы на гэтыя ўмовы, Каганец сказаў сваё слова ў беларускай літаратуры і ў беларускім мастацтве.



 

# Заўвагі аб рэформе сучаснай АСВЕТЫ

Праграма паступовай рэформы сучаснай асветы выклікала сярод насельніцтва закранутых ёю вёсак шматлікія ўвагі. Але нямногія здаюць сабе справу з таго, што гэта рэформа была запачаткавана на Беласточчыне ў выніку вельмі некарысных дэмаграфічных змен не ў 1973 годзе, а звыш пяць гадоў таму назад. У 1972/73 школьным годзе было 193 тысячы вучняў, а ў 1979/80 г. будзе толькі 172 тыс. У Бельскім, Гайнаўскім, Сакольскім паветах лік нараджэнняў у 1959-1972 гадах паменшыўся амаль на 50%. Калі ўзяць спамянуты 1959 год за зыходны, дык да 1972 года зменшыцца ў нашым ваяводстве агульны лік дзяцей на 54 тысячы. Услед за гэтым пачала памяншацца колькасць пачатковых школ з 1510 у 1965/66, да 1414 — у 1972/73 і 1171 — у 1979/80 школьным годзе. На працягу пятнаццаці гадоў будзе ліквідавана 339 пачатковых школ.

З вышэй прыведзеных лікаў вынікае, што на Беласточчыне дэмаграфічныя абставіны рабілі проста нерэальным захоўванне ранейшай сеткі школ. Соймавая пастанова з 12.IV.1972 года і Праграма паступовага пераходу на дзесяцігадовую сярэднюю адукацыю Міністэрства асветы і выхавання з 1 лістапада 1973 года праўна толькі ўсанкцыянавалі гэтыя працэсы, а ў некаторых выпадках іх паскорылі. Згодна з вышэй спамянутымі дакументамі і мясцовымі патрэбамі будзе дзейнічаць у вёсках з невялікай колькасцю дзяцей каля 860 філіяльных школ з класамі I—IV пры адным або двух настаўніках і ў мястэчках або вёсках — 90 філіяльных школ з класамі I—VIII пры шасці і больш настаўніках. Астатнія 222 школы будуць залічвацца да зборных дзесяцігодак, у ліку якіх 133 маюць выконваць функцыі гмінных школ і каля 90 сучасных пачатковых школ у гарадах стануць дзесяцігодкамі з дваццаццю і больш настаўнікамі. Зразумела, што не ўсе гмінныя і гарадскія пачатковыя школы падрыхтаваны да правядзення спамянутай рэформы ў такім хуткім часе. У многіх мясцовасцях па меры фінансавых магчымасцей краіны пачнецца перабудова або пабудова школьных будынкаў, інтэрнатаў, дарог, павелічэнне кадраў і гэтак далей.

Паводле нашых падлікаў, у 1979/80 школьным годзе ва ўсіх рэфармаваных школах Беластоцкага ваяводства будуць працаваць 7244 настаўнікі, у тым ліку 3270 настаўнікаў у I—IV класах і 3974 настаўнікі у V—X класах. А гэта значыць, што патрэбы паменшацца на амаль 2000 настаўнікаў. Улічваючы адыход на пенсію, на іншую работу і міграцыю ў іншыя ваяводствы амаль 1500 асоб, а таксама прыход выпускнікоў з мясцовай філіі Варшаўскага універсітэта і іншых ваяводстваў 1200 асоб, трэба будзе для 1700 настаўнікаў да 1980 года пашукаць іншай працы. Гэта вельмі істотны сігнал для маладых настаўнікаў, якія не спяшаюцца, маючы сярэднюю адукацыю або СН, распачаць завочна вучыцца ў вузах. Вядома, што згодна з інтэнцыяй Міністэрства асветы і выхавання ўсе настаўнікі ад першага да дзесятага класа павінны на працягу бліжэйшых 12—15 год атрымаць вышэйшую адукацыю са ступенню магістраў. Усіх, хто не атрымае гэтай падрыхтоўкі, чакае наменклатура некваліфікаванага настаўніка і адыход з працы. Зараз гэтыя праблемы вырашаюцца вельмі складана. Многія настаўнікі атрымалі ад асветных улад накіраванні ў вузы без уступных экзаменаў, але пры першых цяжкасцях пакідаюць вучобу. Другі раз кіраваць іх ужо нельга. Трэба заўважыць, што ў гэтым годзе на звыш 9 тысяч настаўнікаў пачатковых школ толькі 540 мае вышэйшую адукацыю, а 6.700 павінна яе атрымаць да 1980 года. Створаныя ўмовы трэба абавязкова выкарыстаць. Настаўнікі павінны быць добра падрыхтаваны да рэалізацыі праграмы навучання ў агульнаадукацыйнай дзесяцігадовай школе. Толькі тады можна будзе лічыць, што пачатая рэформа асветы дасць добрыя вынікі.

**Ул. Юзвюк**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

101

ЛЮБОЎНАЯ

Lento

Па-се-я-ла а-гу-роч-кі бліз-ко над ва-до-ю, Са-ма бу-ду

па-лі-ва-ці дроб-на-ю сле-зо-ю.

*Пасеяла агурочкі блізко над вадою,*
*Сама буду паліваці дробнаю слезою.*
*Сама буду паліваці дробнаю слязо(ю).*
*Раслі, раслі агурочкі — чатыры лісточкі.*
*Ні бачыла міленькаго чатэры гадо(чкі).*
*Ні бачыла міленькаго чатэры гадочкі,*
*А на пяты пабачыла, як чэрэду гнала.*
*„Добры вечэр“ ні сказала, бо маці стаяла.*
*„Добры вечэр“ ні сказала, бо маці стая(ла).*
*Бо маці стаяла, а бацька дзівіўся.*
*Ні пускалі на гуліцу, кажэ: „Маладая“.*
*Ні пускалі на гуліцу, кажэ: „Малада(я)“.*
*— Пусці, пусці міне, маці, я ні забаўлюса,*
*Першы певянь праспявае — дадому вярнуса.*
*Першы певень праспявае — дадому вярну(са).*
*Спева першы, спева другі, трэйці начынае.*
*А ўжэ ж мая Марусянька з хлопцамі гуляе.*
*А ўжэ ж мая Марусянька з хлопцамі гуля(е).*

Ад Гэлены Тычынскай, 1923 года нараджэння, вёска Мастаўляны Беластоцкага павету, запісаў 25 кастрычніка 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У „Доме кнігі“ ў Саколцы, вул. Гродзенская 5, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Магілёў, 1971, цана 15 зл.

Элегантны фотаальбом, прысвечаны сённяшняму дню горада Магілёва і яго ваколіц. У выданні — каляровыя і чорна-белыя фатаграмы.

Вітка Васіль, Казкі, 1968, стар. 168, цана 4 зл. 10 гр.

Зборнік вершаваных казак вядомага беларускага дзіцячага пісьменніка старэйшага пакалення. У выданне ўвайшлі — „Дударык“, „ППШ“, „Азбука Васі Вясёлкіна“, „Вавёрчына гора“, „Буслінае лета“ і „Казка пра Зубра“. Займальныя гэтыя творы аздобіў каляровымі ілюстрацыямі Б. Ярмачонак.

Марціновіч Аркадзь, Няхай ідзе дождж, 1973, стар. 160, цана 3 зл. 70 гр.

Аповесць пра апошнюю вайну.

Матэвушаў Васіль, Верасы, 1972, стар. 218, цана 6 зл. 80 гр.

Чарговы том лірыкі сучаснага беларускага паэта старэйшага пакалення.

Русецкі Аляксей, Зямля гаворыць зорам, 1971, стар. 64, цана 1 зл. 90 гр.

У гэты невялічкі зборнічак увайшлі: паэма „Маналог Зямлі“, а таксама новыя вершы паэта.

Кнігарня ў Саколцы ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:
„Dom Książki“. Sokółka, ul. Grodzieńska 5, woj. białostockie

(мг)

## Стала горш

Ляшукі ў Нараўскай гміне залічваюцца да адной з перадавых вёсак. Гаспадары яе належна выконваюць свае абавязкі перад дзяржавай, добра гаспадараць і добрыя маюць вынікі ў сельскагаспадарчай вытворчасці.

Але ў апошнім часе ў Ляшуках наступіла нейкая абыякавасць. На вулічных электрычных слупах не гараць лямпачкі. Нявыгада хадзіць упоцемку. Аднак усе маўчаць. Маўчыць таксама солтыс, партыйная і іншыя арганізацыі. Ёсць яшчэ адна непрыемная, нават прыкрая справа. У вёсцы паявіўся злодзей. Згінулі ўжо хамут, бочка, сякера і іншыя гаспадарчыя прадметы. Раней, бывала, калі што асталося на панадворку або пры будынках, не прападала. Ніхто нічога спецыяльна не хаваў. Была саліднасць, сумленнасць. А цяпер робіцца небяспечна, робіцца сорамна, што знайшлася ў вёсцы паршывая душонка, якую трэба дапільнаваць і выкрыць.

(мх)

## Ці ведаеце што...

...у нашай краіне дзейнічае зараз больш 20 тысяч школьных гурткоў ТППР.

...больш 240 тысяч маладых сялян у Польшчы павышае свае веды ў галіне сельскай гаспадаркі.

...даўжыня ўсіх вуліц у сталіцы Польшчы — Варшаве раўняецца 2 222 кіламетрам.

(ця)

## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73“

*Удзельніцы фінальнага агляду Вольга і Галіна Госцік з Міхалова.* *Фота А. Карпюка.*

## З маёй званіцы

## ПЕРЦАМ ІХ І БОБАМ...

Ад мая пачаўшы, ва ўсіх газетах толькі пра падрыхтоўку да зімы і пішуць. Што ні артыкул, то добрыя навіны. Столькі і столькі, ведаеце, нарыхтавана пяску, цэлыя горы солі. З газетных рубрык плугі там розныя і іншыя машыны для ачысткі дарог цэлымі стадамі шчаціняцца. Ды і не ламачча там якое заіржавелае, а ўсё новенькае, падрыхтаванае, закансерваванае і падмазанае. Пры гэтым яшчэ цэлая армія працаўнікоў. Адказныя за цэласць кіраўнікі гудуць у баявыя трубы. Фронт гатоў! Дарожныя палкі і дывізіі на пазіцыях. Што нам зіма?!

Такі здаровы, разумееце, аптымізм, што аж ездзіць хочацца. Гэта — пакуль першы белы пух не пасыпаў з неба.

Не мне, аднак, наракаць. Мне яшчэ пашанцавала.

Пашанцавала, бо выбраўся я пасля першай снежнай ночы шашою № 12 у напрамку Беласток—Баброўнікі. А шаша тая адной з лепшых лічыцца і адной з першых яе расчышчаюць. Страх падумаць, што было б, калі б я ў які іншы бок сунуўся.

Спачатку нават зусім нічога сабе было. Каляіну перада мною ўжо нейкі грузавік, душа пакутная, паспеў працерці, і я сабе спакойненька ягоным следам вужакаю кручуся. Рысак мой бляшаны, праўду кажучы, замест барматаць паціхеньку, бурчыць і нават рыкае злосна. Часам зачыхае, часам кашляе. Аднак, нягледзячы на ўсё, хоць трашчыць, хоць пішчыць, а ўсё ж едзе. Толькі аж каля самых Пясчанікаў застраў, небарака. Застраў — і далей ні туды, ні сюды не дасць рады. Хоць ты яго лай, хоць пінай нагою. Шчасцем, следам за мною „Сірэнка“ пад'ехала і таксама засела.

Убачыўшы, што нам з той самай талеркі кісель хлябаць прыдзецца, мы ўжо праз пару хвілін наладзілі з шаферамі „Сірэнкі“ сардэчныя адносіны і па-сяброўску адною лапатаю пачалі па чарзе снег разгартаць. Падзел працы ў нас сам выявіўся. Адзін з усяго пляча ў заспу ўгрызаецца, дух ледзьве пераводзіць, а другі тым часам поўнымі лёгкімі дыхае і дзеля лепшай іх вентыляцыі ўпраўленне дарог на чым свет кляне. Ну, а пасля наадварот, вядома.

Бачым, прэ „Варшава“. Напэўна, затрымаецца, паможа. А куды там! Раптам захрыпела, зарыпела, уздыхнула цяжка разоў пару і побач з намі загразла. Вылез шафёр. Піхнуўшы брушкам другія дзверцы, выбраўся нейкі важны дзядзька, дырэктар, пэўна. Яшчэ метр, другі і праняслася б, наракае. А цяпер, маеш табе...

Пэўна, пэўна, кажу яму. Калі б у вашае каламыгі яшчэ крылы былі, дык і па-над соснамі можна было б. А так, сядзіце, калі селі. Такім разумным, якія толькі сябе глядзяць, другім не памагаюць, так і трэба.

А ззаду за намі ўжо весела робіцца. Праезду няма для нікога. У доўгі рад уставіліся самазвалы, грузавікі, цыстэрны з ЦПН-у і розная іншая дробязь. Назбягалася хлопцаў вясёлых і дружных.

— Г-э-э-й, плячом, міленькія!
— Г-э-э-й, разам, родненькія!

Амаль у паветры перанеслі маю машыну і ўжо наступныя перапіхаюць.

Дзіва-дзіўнае, але і „дырэктар“ з застраўшай „Варшавы“ не адстае. Увесь трыбушок у снезе, лоб успацеўшы, а памагае. Нядрэнны, пэўна, чалавек. Зразумеў навуку.

Ну і я з усіх сіл стараюся. Вушы пры аказіі развесіў, слухаю, што паміж сабою прафесіяналы, людзі свядомыя, не адну дарогу бачыўшыя, гавораць. І што падумаеце? Разумна, вельмі разумна хлопцы кажуць.

Ну, па якое ліха гэтага пяску, солі, нарыхтоўваць столькі? Шмат лепей было б прызапасіць перцу, скажам, адпаведную колькасць, ну і бобу ў прапорцыі... Навошта? А зусім проста. Усыпалі б тады, ведаеце, калі трэба, перцу тым, што ўсё лета да адснежвання рыхтаваліся, і здарава б заадно задалі бобу тым, што гэтай справы дапільнаваць не ўмелі. Было б яно параўнаўча танна, ды і эфект, на агульную думку, не быў бы благі.

**Ларс**




Маёр Клімук — камандзір карабля „Саюз-13“ належыць да трэцяга папаўнення лётчыкаў у Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў. У той дзень, калі Юрый Гагарын рабіў легендарны палёт у космас, Пятру Клімуку было толькі дзевятнаццаць.

— Калі запусцілі першы штучны спадарожнік Зямлі, — успамінае лётчык, — мы па-іншаму паглядзелі на неба. Потым паляцелі апараты ў бок Месяца. Ну, проста казка! І раптам карабель „Усход“. 108 касмічных мінут Юрыя Гагарына ўзрушылі ўсіх нас. Самалёты, на якіх мы, курсанты Чарнігаўскага вышэйшага ваеннага авіяцыйнага вучылішча, вучыліся лятаць, здаліся нам чымсьці адыходзячым у мінулае. Які ён, „Усход“ — ніхто не ўяўляў. Але лятаў жа на ім наш брат-лётчык. Значыць, думалі мы, самалёт і касмічны карабель у нейкай ступені — браты. Газеты з матэрыяламі аб першым палёце чыталі і перачытвалі. Добра памятаю словы Юрыя Аляксеевіча: ва ўсе часы і эпохі для людзей было вышэйшым шчасцем удзельнічаць у новых адкрыццях.

...Ішоў час. Стартавалі ў космас Герман Цітоў, Андрыян Нікалаеў і Павел Паповіч, Валерый Быкоўскі і Валянціна Церашкова. Маладому лётчыку ўсё мацней хацелася лятаць да зорак. У 1964 годзе Пётр Клімук з адзнакай скончыў вышэйшае авіяцыйнае вучылішча, праявіўшы выдатныя здольнасці. Тут жа ён уступіў у члены КПСС. Пачалася служба ў Савецкай Арміі.

Жаданне стаць лётчыкам-касманаўтам станавілася ўсё больш неадольным. І Пётр Клімук з уласцівай яму настойлівасцю і ўпартасцю ўдасканальвае майстэрства, асвойваючы адзін самалёт за адным.

...Любоў да палётаў, да авіяцыі пачалася з дзяцінства. Пётр Клімук нарадзіўся ў невялікай беларускай вёсцы



*Экіпаж касмічнага карабля „Саюз-13“ П. Клімук і В. Лебедзеў на прагулцы.*

Камароўка непадалёк ад легендарнай Брэсцкай крэпасці, праз год пасля пачатку вайны, 10 ліпеня 1942 года. Бацька — Ільля Фёдаравіч да фашысцкага нашэсця быў намеснікам старшыні калгаса „Савецкі пагранічнік“. Пасля вызвалення пайшоў у Чырвоную Армію. У 1944 годзе ў дом Марфы Паўлаўны прыйшла цяжкая вестка — муж яе Ільля Клімук загінуў пад Варшавай. На руках у яе засталося трое дзяцей.

Ішоў час... Побач з маці, на шчасце, аказаўся добры чалавек — Міхаіл Васільевіч Марозаў. Айчым дапамог стаць сям'і на ногі. У 1959 годзе Пётр Клімук скончыў дзесяцігодку. К гэтаму часу ён цвёрда вырашыў стаць лётчыкам.

— Аднойчы непадалёк ад школы, вучыўся я тады ў чацвёртым класе, зрабіў вымушаную пасадку самалёт, — расказвае касманаўт. — Раней толькі ў небе я бачыў серабрыстыя кропкі, якія пакідаюць за сабой воблачны след. А тут вось ён, побач! Мы з хлапцамі не зводзілі вачэй з машыны. З таго часу я і „захварэў“ небам. Вучыўся, рос. Усё часцей і часцей у мае рукі пачалі трапляць кнігі аб праслаўленых лётчыках. Скончыўшы дзесяцігодку, я ў тым жа 1959 годзе паступіў у школу першапачатковага абучэння лётчыкаў.

Ішлі ў космас караблі. На змену „Усходу“ прыйшоў „Узыход“. Суткі прабыў у космасе першы экіпаж у саставе У. Камарова, К. Феакцістава, Б. Ягорава. У 1965 годзе нарадзілася новая яркая старонка касманаўтыкі. Аляксей Ляонаў зрабіў першую прагулку ў адкрыты космас.

Пачаўся новы набор лётчыкаў у атрад касманаўтаў. Прапанавалі выпрабаваць сябе ў новай справе і Пятру Клімуку. У 1965 годзе ён прыйшоў у Цэнтр падрыхтоўкі касманаўтаў. Першая сустрэча з Юрыем Гагарыным. Пра яе марыў кожны, хто прыходзіў у Зорны гарадок.

— Яго забыць нельга, — хвалюючыся, гаворыць Пятро Клімук. — Юрый Гагарын для мяне, для маіх аднагодкаў чалавек з легенды. Юрый Аляксеевіч старэйшы на цэлыя восем гадоў. Для авіятара гэта не мала. Але які ён быў просты з намі, маладымі. Яго вабіла да нас. Гагарын быў і строгі і добры, сур'ёзны і жартаўлівы. Ён дапамагаў нам працаваць і вучыцца. Калі ў мяне пытаюць, хто твой любімы герой, я, не задумваючыся, гавару: Юрый Гагарын. Буду бясконца шчаслівы, калі ўкладу ў справу, пачатую ім, свой хоць невялікі ўклад.

**(„Чырвоная змена“)**



*Камандзір касмічнага карабля „Саюз-13“ П. Клімук і бортінжынер В. Лебедзеў.*




ЯК ЗВАРЫШ, ТАК і З'ЯСі

### ПУДЗІНГІ

Пасля ўсіх святочных шаленстваў, калі пагулялі і наеліся ўсе дасыта, варта змяніць крыху штодзённае меню. Прапануем: менш мяса, а канкрэтна — некалькі рэцэптаў на пудзінгі, якія могуць служыць дасканалым другім блюдам на абед, або самастойным блюдам на снеданне ці вячэру.

#### ЗВЫЧАЙНЫ

Масла, цукар, муку і крухмал добра размяшаць. Паступова ўліваць халоднае малако, мяшаць венічкам і кіпяціць мінут 10—15, пакуль не зробіцца цвёрдая маса, затым зняць з агню і крыху астудзіць. Дадаваць па аднаму жаўткі, добра размешваючы іх. Збіць дакладна бялкі і таксама змяшаць з атрыманай масай. Дадаць ванілін ці нейкае іншае араматычнае рэчыва. Вылажыць масу ў змазаную маслам і пасыпаную мукой форму для пудзінга, але не даверху, каб ён мог падняцца. Паставіць у духоўку і трымаць прыкладна паўтары гадзіны. Выняўшы пудзінг з духоўкі, перавярнуць яго на блюда і змазаць збітай смятанай. Падаваць на стол гарачым, інакш пудзінг асядзе.

Прадукты: 1/2 шклянкі малака, 100 г цукровай пудры, 50 г мукі, 50 г крухмалу, 200 г масла, 5 яечак, ванільны цукар, смятанка па смаку.

#### РЫСАВЫ

Зварыць рыс у адной шклянцы вады. Дадаць малако, крыху солі і кіпяціць, пакуль рыс не ўбярэ малако. Дадаць цукар і зноў кіпяціць мінут 5—10, пакуль не загусцее. Крыху астудзіць, дадаваць па аднаму жаўткі. Дадаць добра збітыя бялкі і ўсё добра размяшаць. Вылажыць масу ў змазаную маслам і абсыпаную мукой форму, запячы ў духоўцы. Перад падачай выняць пудзінг з формы і заліць ванільным соусам. Соус робім так. Жаўткі расціраем з цукрам і ванілінам, затым уліваем халоднае малако, ставім на агонь і, памешваючы, падаграваем, не даводзячы да кіпення. Загусцеўшы соус зняць з агню.

Прадукты: для пудзінга 1/2 л малака, 120 г рысу, 150 г цукру, 6 яечак, ванільны цукар. Для соусу: 1/2 л малака, 150 г цукру, 5 жаўткоў і 1 ванільны парашок.

#### ХЛЕБНЫ

Масла з цукрам расцерці і дадаваць па аднаму жаўтку, а пасля нацёрты чэрствы белы хлеб без скурак. Збіць бялкі на пену і ўсё асцярожна размяшаць. Запячы ці варыць у формачцы на пары. Падаючы, навокал пудзінга палажыць кансерваваныя фрукты.

Прадукты: 200 г масла, 6 яечак, 150 г цукровай пудры, 150 г хлеба, фрукты.

**Гаспадыня**




Пакуль палкоўнік адпачываў і абедаў, да двара заставы падцягваліся жыхары вёскі. Было іх не надта многа — з дзесятак мужчын, дзесяткі два жанчын ды некалькі цікаўных падлёткаў.

— Малавата, — канстатаваў Шпакаў.

— Многіх няма дома, — апраўдваўся Глебаў, які ўвайшоў з двара. — Ці яны сапраўды адсутнічаюць па розных справах, ці знарок зніклі на час, не зразумееш. І многа хворых: „Ой, пан жолнеж, не можу“. Народ тут нейкі асаблівы.

— Народ добры, — нахмурыўся палкоўнік, — толькі ведаць яго трэба і мову агульную ўмець знаходзіць.

„Лёгка сказаць“, — падумаў Глебаў і тут прыгадаў сваё наведанне сям'і Вышаслаўскіх. Гаспадар хаты, якую займала застава, Вышаслаўскі з дачкой Стасяй цяпер часова жыў у невялікай, апусцелай будыніне па суседству. Стары гадзінамі праседжваў на ганку, грэючыся на слабым асеннім сонцы, і пазіраў на свой дом, заняты салдатамі. Савецкі капітан прасіў прабачэння ў гаспадароў і запэўніў, што хата будзе цэлай і непашкоджанай, але Вышаслаўскі, як бы не давяраючы, пастаянна наглядаў за домам.

Вышаслаўскі быў мясцовым старажылам, і Глебаў вырашыў спачатку паказаць забітага хлопца яму. Але стары, які сядзеў да гэтага на ганку і бачыў, як прывезлі труп, раптам некуды знік. На стук Глебава дзверы адчыніла Стася і сказала, што бацька нешта занядужаў. З печы, як бы ў пацверджанне яе слоў, пачуліся стогны. Глебаў пастаяў і пайшоў.

...Лузан вёў размову з палякамі, пераходзячы ад аднаго да другога. Людзі слухалі ўважліва, згодна ківалі галавамі, але калі Лузан сказаў, што забіты бандыт, магчыма, з мясцовых жыхароў, і папрасіў апазнаць яго, наступіла цяжкая напружаная паўза. Ніхто не адважваўся падысці першым. Лузан паўтарыў просьбу. Нарэшце, пашаптаўшыся аб нечым, мужчыны пасунуліся ўперад, а за імі пацягнуліся і жанчыны. Праходзілі ўсе хутка, мелькам і боязна касіліся на забітага і мармыталі:

— Не вем, пан...

— Не вем.

— Не вем.

Бандыта не апазнаў ніхто. Двор заставы апусцеў.

— Вось бачыце, таварыш палкоўнік, — пацiснуў плячыма Глебаў. — Я ж казаў.

— Я бачу толькі тое, што відаць. А вось цікава — не апазналі ці не захацелі апазнаць? А калі не захацелі, дык чаму? Гэтага, на жаль, ні мне, ні вам не ведаць.

Нечакана ў двор заставы прыбеглі двое — стары і малады.

— Дзень добры, панове, — злёгку задыхаўшыся, прывітаўся старэйшы.

— Солтыс з сынам, — шапнуў Глебаў палкоўніку, — мясцовая ўлада... Дзень добры, пан Тадэуш, дзень добры, Баляслаў! З чым да нас?..

Глебаў і Шпакаў паціснулі палякам рукі.

Солтыс, не адказваючы на запытанне, накіраваўся да забітага хлопца. Нахіліўся, каб лепей разгледзець, потым жэстам падазваў сына. Той таксама нахіліўся, кіўнуў галавой.

— Гэта Анджэй з Тыжэчкі, — сказаў солтыс.

— Так, так, — пацвердзіў Баляслаў.

З размовы з солтысам высветлілася, што забіты — сын гаспадара хутара, што ў лесе каля вёскі Тыжэчкі. Хутар пустуе, гаспадар уцёк з немцамі, а сын пайшоў у мясцовую банду.

— Скажыце, пан Тадэуш, — спытаў Шпакаў, — Анджэя ў Кудароўшчыне ведалі?

— Анджэй сватаўся да мясцовых паненак.

— Чаму ж не прызналі яго? Баяліся?

— Хто баяўся, а хто — не.

— Як гэта разумець?

— А так. Прыходзілі да вас сёння і тыя, каму новая ўлада не дужа падабаецца. Яны паціхеньку і цыкалі на людзей, каб маўчалі. А іншыя пабаяліся праўду сказаць.

— Ну, а такіх, хто за новую ўладу, многа ў Кудароўшчыне?

— Ге, лічы, пане, народ. У партызанах многа было, з фашыстамі ваявалі. Толькі ўчора яны ў Беласток паехалі, збор у іх там. Заўтра вернуцца. А мы з Баляславам у полі былі.

Шпакаў паглядзеў на Глебава, як бы пытаючы: „Ну, што скажаце, таварыш капітан?“ А што таму было гаварыць?

— Дзякуй, пан Тадэуш, за дапамогу, — падзякаваў палкоўнік, — дзякуй, Баляслаў. Калі ў вас якая патрэба будзе, разлічвайце на нас, заўсёды дапаможам. Нам сябраваць трэба.

Солтыс з сынам пайшлі.

— Ну што, таварышы афіцэры, — сказаў Шпакаў, кіруючыся да хаты. — Бачылі вы, што такое народ? Ведаеце вы яго? Умееце з ім гаварыць?

Палкоўнік зморшчыўся ад болю ў руцэ.

— Калі ласка, прыпаліце мне цыгарэту, — папрасіў ён Глебава. Ён прагна зрабіў некалькі зацяжак, Лузан таксама засмактаў сваю люльку. За акном гусцеў змрок.

— У мяне такое пачуццё, — загаварыў Шпакаў, — быццам мы нечага недарабляем, чагосьці не ўлічваем у нашай службе. Памятаеце Беларусь? Там і праваднікі ў нас былі з мясцовых жыхароў, і разведчыкі, і байцы. Увесь народ дапамагаў нам. А вось прыйшлі ў Польшчу і забыліся на насельніцтва. На сябе толькі спадзяемся, на свае сілы. Чаму?

**(Працяг будзе)**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Шчырае вам дзякуй!

**Усім нашым карэспандэнтам за прысланыя святочныя і навагоднія пажаданні шчырае дзякуй.**

**«Ніва»**

## Для вучняў

Прыйшла зіма. Дні сталі кароткія — маразы вялікія. Пазадувала дарогі. Вучні, якія даязджаюць да школы, бывае, доўга чакаюць аўтобуса ці поезда. Некаторым яшчэ і да прыпынку далёка. Пакуль прыедуць у школу, дык моцна змерзнуць.

Таму вучні ў Гайнаўскім беларускім ліцэі атрымліваюць дапамогу. На доўгім перапынку нам прывозяць гарачы суп. Амаль усе вучні карыстаюцца магчымасцю з'есці нешта цёплае. Мясцовым ён нават часта замяняе абед. Гэтак вучні нашага ліцэя харчуюцца ўжо трэці месяц. Дажыўленнем у ліцэі кіруе пані Рушук. Пад'еўшы, вучні адчуваюць сябе здаровымі, больш ахвотнымі да навукі і спартыўных гульняў.

**Ніна Петручук,**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

## Анна Кавецкая



Чытальніцтва ў вёсцы мае немалы ўплыў на развіццё культуры. Добры бібліятэкар — гэта і прапагандыст культуры, — варушыць ён справамі моладзі і дабіваецца, каб як найбольш было чытачоў у яго бібліятэцы. Да такіх перадавых людзей можна залічыць бібліятэкаршу з Дубіч Царкоўных — Анну Кавецкую. Працуе яна нядаўна, але за кароткі час здабыла для бібліятэкі больш як 60 новых чытачоў. Цяпер у дубіцкай бібліятэцы налічваецца 230 чытачоў, не лічачы бібліятэчных пунктаў.

Анна Кавецкая часта наведвае бібліятэчныя пункты. Ёсць іх 13 і адзін філіял бібліятэкі ў Старым Корніне. Кожны з пунктаў трэба дагледзець. У пунктах ёсць 1259 кніжак. Наша бібліятэкарша кажа, што за зіму яна прыдбае яшчэ многа новых чытачоў.

Чытачамі ў нас з'яўляюцца наогул маладыя, але ёсць і старэйшыя. А. Кавецкая кожнаму з іх параіць і дапаможа ў выбары кніжкі.

Многа энергіі прысвячае бібліятэкарша распаўсюджванню сярод чытачоў беларускай і рускай літаратуры. Кніжак на роднай і рускай мовах, а таксама і часопісаў ёсць многа ў бібліятэцы. Таксама газета „Ніва" заўсёды знаходзіць тут сваіх сяброў.

**Мікалай Панфілюк**

## Перш за ўсё мінеральныя ўгнаенні

У Шудзялаве адбыўся сход гміннага камітэта ПАРП. На парадку дня стаяла справа куплі сялянамі мінеральных угнаенняў. Да канца лістапада мінулага года выканана 59 працэнтаў гадавога плана куплі мінеральных угнаенняў. Таму гміна знаходзіцца на перадапошнім месцы ў павеце.

Выступае вялікая розніца ў выкананні плана паасобнымі вёскамі. Напрыклад, Пачапок і Маркаў-Выган выканалі свае планы ў 92 працэнтах, Сукавічы і Паўночны Востраў — у 73 працэнтах, а вёска Казловы Луг — толькі ў 41 працэнтах, Навінка — у 43 працэнтах.

Ёсць у Шудзялаўскай гміне гаспадары, якія высяваюць больш, як 120 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на гектар, гэта: Фёдар Рысь з Астраўка — высявае 140 кг на гектар, Іван Федзюкевіч з Слоі — 130 кг на гектар, Антон Лукашэвіч з Маркава-Выгана — 140 кг на гектар і г.д.

Другой справай, якой займаўся сход, быў выбар I сакратара гміннага камітэта ПАРП. Сход аднагалосна выбраў Пятра Снахоўскага. Ён адначасова будзе старшынёй гміннай рады народовай у Шудзялаве.

**А. С.**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### КОЛЬКІ ЛЮДЗЕЙ ГІНЕ?

Як паінфармавала Сусветная арганізацыя здароўя, ад укусаў ядавітых змей штогод на свеце гіне 40—50 тысяч асоб. У самай толькі Індыі гіне 11.000 асоб, а ў цэлай Азіі — 25.000 — 35.000. У Еўропе гіне ў год каля 50 асоб. (ті)

## У Бабіках трэба будаваць школу

Гміна Бабікі — гэта другая па велічыні гміна ў Сакольскім павеце. На працягу 30 год народнай улады ў Бабіцкай гміне не пабудавалі аніводнай школы. Ва ўсім Сакольскім павеце пабудавана за гэты час каля 30 школ, многа з іх у рамках лозунгу „1000 школ на 1000-годдзе Польскай дзяржавы". У суседняй гміне Шудзялава за той жа час пабудавана 5 школ. У Бабіцкай гміне дзеці вучацца ў нанятых ад гаспадароў прыватных будынках. У Кнышэвічах, напрыклад, аж у трох хатах адбываюцца школьныя заняткі.

Ёсць прапанова сялян Бабіцкай гміны: калі будуць будаваць у Сакольскім павеце гмінныя зборныя школы, трэба ў першую чаргу пабудаваць школу ў Бабіках.

**А. С.**

## Сустрэча з паэзіяй

У гасцях у вучняў Бельскага беларускага ліцэя пабываў вядомы акцёр і дэкламатар Лукаш Лукашэвіч. Пан Лукашэвіч — наш пастаянны госць. Ён ужо некалькі разоў быў у нашай школе. Цяпер ён прыехаў да нас з багатай праграмаў вершаў Норвіда, Славацкага, Бранеўскага, Тувіма і прозы Сянкевіча. Мы з увагай слухалі выступленне акцёра.

А ён з асабліва вялікім пачуццём выконваў паэзію Бранеўскага, якога ведаў асабіста. Наш госць расказаў таксама аб штодзённым жыцці гэтага славутага песняра пралетарскай справы.

На заканчэнне сустрэчы вучні IIa класа кветкамі і шчырымі словамі падзякавалі Лукашу Лукашэвічу за мілы візіт і папрасілі часцей наведваць нашу школу.

**Яўген Семянюк,**
клас IVa
Бельскі беларускі ліцэй




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Я ўжо немаладая жанчына. Мне 38 гадоў. Дзіцячыя гады правяла я на вёсцы, а калі споўнілася мне 18 год, пайшла на работу ў горад. Замуж выйшла два гады таму назад за Пецю, старэйшага за мяне на дзесяць год. Не кахала я яго, але спадабаўся мне яго характар. Гэта добры, талковы і спакойны чалавек. Да таго ўжо і пара выходзіць было. Жывецца нам нядрэнна, і я была задаволена сваім выбарам, пакуль вось не спаткала іншага чалавека. А сталася гэта нядаўна, калі пасля хваробы лекар накіраваў мяне ў санаторый. Прабыла я там тры месяцы. І тут пазнаёмілася з Мішам. Ён малодшы за мяне на 8 гадоў. Ён жанаты і мае трое дзяцей. Спачатку мы былі толькі добрымі сябрамі, а потым пакахалі адзін другога. Хутка праляцеў час і прыйшоў канец майму побыту ў санаторыі. Міша яшчэ астаўся. Абяцаў пісаць, а калі вернецца, запрапанаваў спатканне. Так і было. Спатыкаліся мы ўжо некалькі разоў, бо жывем у адным горадзе. Цяпер толькі і думаю аб Мішы. Пеця мне стаў зусім абыякавы, і дадому мяне не цягне. Аднойчы Міша мне сказаў, што для мяне ён кінуў бы жонку і, калі б толькі я згадзілася разыйсціся з мужам, мы б пажаніліся. Я аднак ведаю, што гэта справа нялёгкая. У яго жонка і дзеці, у мяне муж. Ды і я ўжо спадзяюся дзіцяці. Міша аб гэтым не ведае, а Пеця вельмі гэтым цешыцца. Сама не ведаю, які даць Мішы адказ?

Парай, „Сэрцайка".
**Вера з С.**

**Вера!** Перастань сустракацца з Мішам! Сама кажаш, што маеш добрага мужа, а Міша, відаць, лёгкадумны чалавек, калі хоча кідаць жонку і дзяцей. Ты ўжо дарослая жанчына і, думаю, рассудак пераможа каханне. Займіся домам, мужам ды і сабой, ты ж дзіцяці спадзяешся. Гэта табе паможа забыць Мішу. Інакш вы знішчыце жыццё двух сем'яў. А на такім фундаменце і сабе напэўна шчасця не збудуеце.

**„Сэрцайка"**

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** Селянін хоча аддаць гаспадарку дзяржаве за пенсію. На яго ўтрыманні знаходзіцца сын-калека, поўнасцю няздольны да працы. Ці сын атрымае таксама пенсію?

**АДКАЗ:** За гаспадарку, якую селянін аддае дзяржаве за пенсію, прызнаецца толькі адна пенсія, незалежна ад таго, колькі асоб селянін мае на ўтрыманні. Няздольны да працы сын, які знаходзіцца на ўтрыманні бацькі, не можа атрымаць асобнай пенсіі за тое, што яго бацька аддаў гаспадарку за пенсію.




**Прысвячаю рыбаку Міхасю Ціхановічу**

### НАД МОРАМ

Чаму сумныя песні спяваеш,
Пазіраючы ў сінюю даль?
Ці дзяўчыну-красу ўспамінаеш,
Можа ў сэрцы аджыў іншы жаль?

Можа ўспомніў ты родную вёску
І прастор зеленеючых ніў,
Ды равесніцу — белу бярозку,
Што твой татка ў садку пасадзіў?

Пад шум мора мо ўспомніў паходы,
Дзе загінуў зямляк не адзін,
Небяспекі, цяжкія прыгоды,
Як фашыстаў ты гнаў пад Берлін?

Сумным позіркам бродзіш па хвалях,
Там дзе вір і шалёны прыбой.
Што шукаеш у спененых далях,
Дзе змагаецца вецер з вадой?

Можа сеткі шторм рве ды кудлачыць
І хоць якары ў дно ўгрызліся —
Мора-волат забраць усё хоча,
Хвалі грознай сцяной падняліся.

І бушуе стыхія марская —
Хто ж з жывых яе можа стрымаць?
Не ў цябе толькі страта такая,
Дык пакінь жа, пакінь сумаваць.

А як толькі ўлягуцца хвалі,
Рушыць ў мора рыбацкая брацць
Шукаць сетак, што шторм пратрымалі,
Новых лепшых месц рыбных шукаць.

Яшчэ мора за страты заплаціць —
Цёплы подых пакліча удаль,
А як сонца пясок пазалоціць,
Сеткі кінь на храбты сівых хваль.

**Мікалай Базылюк**

### СВЕТ

Наш свет усё віруе, спяшаецца недзе,
Кружыцца, кружыцца, уцякае наперад,
Праз пакаленні эпохаў, з веку ў век лезе,
Хапае факты ў гісторыі невад.

Калі ён пачаўся? Калі канец будзе?
Хто з нас адгадае? Хто будзе разумны?
Хто вынайдзе рэч, што зможа нам, людзям,
Затрымаць час, устрымаць нашы думкі?

Бо хто ж не хацеў бы затрымацца ў часе,
Направіць памылкі, выправіць дарогу,
Агледзець сляды свае, назад азірнуцца,
Убачыць гісторыю свайго дзеда малога?

А свет не стае, усё імчыцца, спяшае.
Усё вышэй дасягае, разумней хоча жыць,
Новым цешыцца, лепшым, аб старым забывае,
З вечнай думкай аб заўтра ён свой век прабяжыць.

**Юрка Панасюк**
Бельскі беларускі ліцэй

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## Аўтобус не паехаў з Дубіч Царкоўных

**АДКАЗВАЕ:**

Wojewódzkie Przedsiębiorstwo Państwowej Komunikacji Samochodowej Oddział I w Białymstoku.

Na podstawie Uchwały Rady Ministrów Nr 151 z dnia 30.07.71 r. w sprawie rozpatrywania skarg i wniosków (MP nr 41 poz. 260 z 1971 r.) — Oddział I PKS w Białymstoku informuje, że z uwagi na ogólnie potraktowaną sprawę nie możemy udzielić dokładnej odpowiedzi dlaczego w danym dniu autobus nie kursował.

Niemniej jednak wyjaśniamy, iż zakłócenia w regularności komunikacji były spowodowane brakiem pełnego stanu zatrudnienia w grupie kierowców, jak również w minionym okresie notowaliśmy wiele usterek technicznych pojazdów.

Pomimo istniejących trudności, podejmuje się szereg środków zaradczych w celu zapewnienia właściwego, zgodnego z rozkładem jazdy przewozu podróżnych.

Z-ca Dyrektora dla Przewozów
Oddziału I-szego PKS w Białymstoku
**Stanisław Wiktorko**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Oszukany" (USA), 22—23. „Dzielny wójek Rosalino" (włoski), 24—25. „Morderca w imieniu prawa" (franc.), 26—27.

**Чаромуха**
„Max i Ferajna" (franc.), 22—23.

**Кляшчэлі**
„Pułapka" (polski), „Krwawa bajka" (jugosł.), „Homolkowie na urlopie" (czeski), 22—27.

**Нараўка**
„Gracz" (radz.), „Sacco i Vanzetti" (włoski), 23—27.

**Нарва**
„Tydzień szaleńców" (rumuński), „Dziewczyna na miotle" (rumuński), 23—27.

**Чыжы**
„Szklana kula" (polski), „Tam, gdzie rośnie zielony bór" (jugosł.), 3—7.

**Дубічы Царкоўныя**
„Anatomia miłości" (polski), „Księżniczka Czardasza" (węgierski), 23—27.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Z tamtej strony tęczy" (polski), „Trzej świadkowie" (czeski), 23—27.

**Райск**
„Najlepsze lata w życiu mężczyzny" (węgierski), „Gdzie jest generał" (polski), 23—27.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Wódz Indian Techumesch" (NRD), 26—27.

**Міхалова**
„Pojedynek rewolwerowców" (USA), 22—23. „Kozi Róg" (bułg.), 24—25. „Na wylot" (polski), 26—27.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Morderca samotnych kobiet" (NRD), „150 na godzinę" (polski), 23—27.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 22—23. „I pozdrawiam jaskółki" (czeski), 24—25. „Dramat zazdrości" (czeski), 26—27.

**Мілейчыцы**
„Sprawdzono min nie ma" (jugosł.), 22—23 „Pipi w kraju Taka Tuka" (szwedzki), 24—25.

**Ніва**

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7.669 O-3

# РЭГЛАМЕНТ

— Што я хачу сказаць? Я прыкмеціў, што ў апошні час у нас сходы сталі вельмі доўгія і нецікавыя. А чаму? Таму, што многа гаворым і не прытрымліваемся рэгламенту. Гэта непарадак. Памятаеце апошні сход, які праходзіў летам? На парадку дня стаяла пытанне аб падрыхтоўцы да жніва. Наш шаноўны Іван Мітрафанавіч, галоўны аграном, зрабіў даклад, як на якім-небудзь кангрэсе, на цэлую гадзіну. Пра што ён толькі ні гаварыў: і аб глабальным пацяпленні планеты, аб уплывах змен флоры на клімат, а клімату на фауну і многае іншае. А калі падышоў да пытання аб падрыхтоўцы да жніва — не хапіла часу. Непарадак гэта. Я што хачу сказаць: калі ўлез на трыбуну, дык гавары па справе, канкрэтна, а няма чаго сказаць — сядзі ціхенька і сапі сабе ў рукаў. Таму я — за цвёрды рэгламент. Не ўклаўся ў вызначаны час — злазь! Няма чаго балабоніць. Памятаю свайго былога начальніка ў пажарнай Якіма Пятровіча, дык ён строга стаяў за рэгламент. Хто б ні выступаў на трыбуне, калі загаворыцца, — абарве на паўслове. Кажа, ваш час выйшаў. Некаторыя абураліся. Крытыку зацiскае! А ён свае, хоць кол на галаве чашы. Ох і строгі быў. Дык што я хачу сказаць? Рэгламент — сур'ёзная справа і тут трэба нарэшце навесці парадак. Я тут трохі адхіліўся. Але прашу мяне правільна зразумець, што нельга грунтоўна абмяркоўваць любое пытанне, не рэгламентуючы выступленні. Я за канкрэтнасць і дзелавы падыход да справы. А цяпер адносна асноўнага пытання — арганізацыі працы на нашых жывёлагадоўчых фермах. Вядома, гэта пытанне сур'ёзнае, трэба...

Старшыня сходу:

— Таварыш Замочкін, ваш рэгламент скончыўся...

— Я ж нічога яшчэ не сказаў!

— Вы за рэгламент, за канкрэтнасць ці супраць?

— Я — за канкрэтнасць.

— Але ж рэгламент скончыўся, прашу з трыбуны.

— Дык гэта ж зацiсканне крытыкі, таварышы! Хіба можна так? Слова сказаць не дазваляюць...

**Юрый Хведчын**



— Вады!

## МОДНІЦА Ў КРАЎЦА

Неяк да аднаго краўца завітала маладзіца і дужа настырна пачала дапытвацца, на чым ёй лепш пашыць шубу — на лісіцы ці на малпе.

Краўцу маладзіца страшэнна надакучыла і ён адказаў:

— Шыйце на лісіцы, а будзе як на малпе!

# НІЎКА

ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!



Рэкордны скачок.

## ГУМАР З

— Які гаспадар лепшы? — пытае батрак у свайго прыяцеля.

— Мёртвы, — адказвае той.





У цырку магчыма ўсё!

## ПАСТАРЫЛІ

Чалавека пастрыглі і пагалілі. Паглядзеў ён у люстэрка і кажа задаволена:

— Адразу памаладзеў на дзесяць гадоў!

— Так, вы цяпер на сорак выглядаеце, — усміхаючыся, заўважыў майстар.

— Дзякуй, мне трыццаць пяць...

## Ці ты Ясь, ці ты не...

Жыў ды быў на свеце Янак,
Не любіў наш Янак п'янак,
І не маючы машыны,
Заглядаўся на дзяўчыну.
А дзяўчыну звалі Стася,
Як і ў песні той пра Ясю.
— Ці ты Ясь, ці ты не,
Спадабаўся ты мне!
Але як, скажы, да шлюбу
Я пайду без футры, любы?
Кофту мецъ хачу з махеру,
Ды з выгодамі кватэру.
Не змагу я жыць у хаце
Разам з сёстрамі і з маці,
Як тваёю жонкай стану...
(Ох, прыйшлося цяжка Яну!)
— Ці ты Ясь, ці ты не,
Варушыся ў мяне!
Як сапраўднаму мужчыну,
Трэба мець сваю машыну.
Хоць разбіся, з-пад зямлі,
А дастань мне „Жыгулі"...
Янак жонцы дагадзіў,
У машыну пасадзіў,
І падсудным сеў на... „лаву".
А яна не піша нават:
— Ці ты Ясь, ці ты не,
Не патрэбны ты мне!

**Кастусь Сіневіч**

## МІНІБАЙКІ

### СТАРАЯ ТРОЙЦА

Лебедзь, Рак і Шчупак зноў вeзці воз узяліся. Кожны, як раней, цягне ў свой бок.

— Якая цудоўная праява індывідуальных здольнасцей! Вось дзе прыклад поўнай свабоды дзеяння! — паддакваў чужому голасу Папугай.



**...Ён адналюб — з алкагольных напіткаў, акрамя самагонкі, нічога ў рот не бярэ.**

**...Ніхто з маіх землякоў не ўзносіўся так высока, — пераконваў сябе заяц у арліных кіпцюрах.**

## НІЧОГА НЕ ЗРОБІШ

Суддзя аб'яўляе прыгавор чалавеку, які другі раз прыцягнуты да адказнасці за тое, што ён абазваў свайго суседа свіннёй:

— Грашовы штраф у размеры пяцідзесяці крон!

— Але гэта вельмі дорага! — пярэчыць аштрафаваны. — У мінулы раз я заплаціў усяго трыццаць пяць крон!

— Што рабіць, — адказвае суддзя, — свініна так падаражэла!

## ШЧЫРАСЦЬ ЗА ШЧЫРАСЦЬ

Мастак - партрэтыст пытае заказчыка:

— Вам падабаецца ваш партрэт?

— Калі сказаць шчыра, то наўрад ці можна назваць яго шэдэўрам мастацтва.

— Дык і вы ж не шэдэўр прыроды! — адказаў пакрыўджаны мастак.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па пераканаўчай просьбе Ганкі Задрыпанскай змяшчаем без чаргі песню, якую спяваў у Празе палонены ёю мурманец*

Слова М. Пляцковского
Музыка М. Фрадкина

### УВЕЗУ ТЕБЯ Я В ТУНДРУ

Увезу тебя я в тундру, увезу к седым снегам,
Белой шкурою медвежьей брошу их к твоим ногам.
По хрустящему морозу поспешим на край земли
И среди сугробов дымных затеряемся в дали.

Припев:
Мы поедем, мы помчимся на оленях утром ранним
И отчаянно ворвёмся прямо в снежную зарю.
Ты узнаешь, что напрасно называют Север Крайним,
Ты увидишь: он — бескрайний.
Я тебе его дарю!

Увезу тебя я в тундру, увезу тебя одну,
Пестрым северным сияньем твои плечи оберну.
Звёздный иней загорится на ресницах серебром.
Сколько хочешь самоцветов мы с тобою соберём.

Припев.

Увезу тебя я в тундру — и тогда поймёшь ты вдруг,
Почему к себе так манит, так зовёт Полярный круг.
Ничего, что здесь метели, не беда, что холода,
Если ты полюбишь Север, не разлюбишь никогда!

Припев.

Увезу тебя я в тундру, увезу тебя я в тундру,
Увезу тебя одну!



— Калега харчуецца ў нашай сталовай.

## РОЗНІЦА

Муж: Ты ведаеш, Надзя, што вярблюд можа восем дзён працаваць і нічога не піць?

Жонка: А ты дужэйшы за вярблюда — восем дзён п'еш і нічога не робіш.

## СУЧАСНЫЯ ДЗЕЦІ

— Дзеці, — звярнулася настаўніца да класа, — сёння вечарам будзе поўнае зацьменне месяца. Гэта — з'ява вельмі рэдкая, і я спадзяюся, што ўсе вы яго паглядзіце. Запомніце, пачатак у дваццаць пятнаццаць.

— Па якой праграме: па першай або па другой? — зацікавіліся вучні.

— Ты асёл! — А ты казёл!

# КУРЁЗЫ

## ЧЭК НА КАРОВЕ

Брытанскія фінансавыя ўлады паведамілі дробнаму гандляру Бэры Томпсану, што за першае паўгоддзе 1973 года ён павінен заплаціць падатак, які здаўся Томпсану вельмі завышаным. У знак пратэсту ён выпісаў чэк на патрэбную суму на сарочцы і прыслаў яе зборшчыку падатку.

На здзіўленне Томпсана, банк прыняў гэты своеасаблівы чэк. Аказваецца, англійскія прадпісанні не патрабуюць, каб чэк быў выпісаны на спецыяльным бланку. Так, напрыклад, ужо мелі месца чэкі, выпісаныя на дзвярцах ад духоўкі, на туалетнай паперы, на купальным касцюме, а таксама на... карове.

## ЭЛЕКТРОННЫ СУДДЗЯ

Электроніка ўсё больш рашуча ўваходзіць ва ўсе сферы жыцця. Прадказваюць, што недалёкі той час, калі вылічальная машына зможа выносіць прыгавор. Да такога вываду прыйшоў з'езд юрыстаў ФРГ, які праходзіў нядаўна ў Мюнхене.

Пры гэтым юрысты спасылаюцца на тое, што часта злачынствы робяцца па адной і той жа схеме. Чалавечая ж памяць не можа ахапіць каля мільёна розных судовых прыгавораў, што выносяцца кожны год. Затое ў гэтым моры інфармацыі можа разабрацца ЭВМ. Машына лёгка знойдзе ў сваёй памяці такую ж справу... і вынясе прыгавор.

## ЛЕПШ ПОЗНА, ЧЫМ НІКОЛІ...

Уладальнік невялікага прадуктовага магазіна ў амерыканскім горадзе Тула заўважыў пакінутую кімсьці на прылаўку дзесяціцэнтавую манету. Побач ляжала запіска: „Вяртаю Вам дзесяць цэнтаў, за яблык, які ўкраў у Вас у 1928 годзе".



Той, у каго няма ніякіх здольнасцей, здольны на ўсё.